Лозунг нумара:

**Думай пра тых, хто побач**

**У нумары**

- Мядзведзь адказвае на ліст
- На каго кінуў вока "Філіп Морыс"
- "КІТ" і яго акваторыя
- Так гартаваўся Даўлатаў
- Іў Мантан і сонца
- Саша Варламаў на краі аркестравай ямы





# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 2 (315) 17 – 23 студзеня 1998 г. КОШТ 3000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •


**15 студзеня распачаў сваю працу XII з'езд беларускіх кампазітараў. Плёну вам, творцы!**

## ТАКОГА ЯШЧЭ НЕ БЫЛО!

Дзесьці гадоў пяць таму ў нашых рэдакцыйных "кулуарах" нарадзілася ідэя: а чаму б не арганізаваць калядную імпрэзу пад умоўнай назвай "Ад Парыжа — да Парыжа"? Мелася на ўвазе вось што. У беларускім мястэчку Парыж нацыянальныя мастацкія калектывы распачыналі б свой калядны марафон; тэатралізаваным шэсцем перасякалі б межы, даючы канцэрты ў Польшчы, Германіі, і гэтак — да сталіцы Францыі. У час гэтых калядных вандровак да іх маглі б далучацца і артысты-аматары іншых краін... Але наша "вялікае калядаванне", у якім меркавалася арыгінальна прадставіць Еўропе ўзоры нацыянальнай культуры, так і засталося ў тых жа рэдакцыйных "кулуарах" і паціху забылася...

І раптам мы даведаліся пра тое, што рок-гурт "Палац" выношвае "яшчэ больш глабальную" мару: стварыць у Мінску Міжнародны фестываль "Калядныя песні", які на мове міжнацыянальных зносін гучыць "Крыстмас сонгз". Ідэя гэтага сапраўды інтэрнацыянальнага фэсту — аб'яднаць Песнямі Раства людзей планеты з розным нацыянальным каларытам і колерам скуры, з рознымі музычнымі і культурнымі "касмаграмамі". І тут ужо, пэўна, будзе заяўлены высокі мастацкі ўзровень менавіта прафесійных выканаўцаў з многіх краін свету. Хто ведае, можа, на такім фэсце калісьці праспявае калядныя песні свайго народа суперзорка Лучана Паварoці, а можа, мы пачуем у адной са сталічных фестывальных залаў гукі афрыканскага там-тама... Хто ведае...

Ва ўсякім разе, ідэя мастацкага кіраўніка "Палаца" Юрася Выдронка нам спадабалася, і ў наступным нумары нашы чытачы змогуць больш дэталёва даведацца пра тое, як ён бачыць канцэпцыю фестывалю. І тое, што наша краіна з'яўляецца своеасаблівым скрыжаваннем культурных, рэлігійных і эканамічных стасункаў, а Мінск, дарэчы, не мае свайго яркага каларытнага песеннага свята, гаворыць "За!" правядзенне падобнага форуму.

Пакуль жа газета "Культура" і часопіс "Мастацтва" абвяшчаюць сябе інфармацыйнымі спонсарамі... ідэі. А дзеля яе практычнай рэалізацыі мы прапануем адгукнуцца ўсіх, каго зацікавіў гэты грандыёзны праект канца XX стагоддзя. Думайце, пішыце, звaніце!

Будзем друкаваць.

**Л.К.**

# Думай пра

*Беларускае тэлебачанне паказала, як на юбілеі трохразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя яму падарылі 100 тысяч долараў. Спадарыня Марыя Салдатава паглядзела гэтую перадачу і напісала нам ліст, у якім прапанавала Аляксандру Мядзведзю падзяліцца грашыма з тымі, у каго іх зусім няма. Аляксандр Мядзведзь не пажадаў дзяліцца і абгрунтаваў сваю пазіцыю ў адказе Марыі Салдатавай. Пра ўсё гэта вы прачытаеце ніжэй. Тут мы толькі адзначым, што гэтая сітуацыя выявіла, як мінімум, тры праблемы:*

*1. Ці трэба тэлебачанню паказваць сюжэты пра багатыя дарункі праважна нішчымнаму тэлегледачу?*

*2. Ці трэба нам зноў імкнуцца да татальнай роўнасці праз агульны перадзел маёмасці?*

*3. Ці добра зазіраць у чужую кішэню?*

*Верагодна, могуць быць самыя розныя варыянты рашэння кожнай з гэтых праблемаў. Хацелася б звярнуць увагу толькі вось на што...*

*Ад веку людзі падзяляліся на бедных і багатых. І, падобна, так будзе заўсёды. Таму адзінай альтэрнатывай матэрыяльнай нішчымніцы можа быць толькі духоўнае багацце. Яно не вырашае сацыяльных праблемаў як асобы, так і грамадства, але і не паглыбляе іх. Бо духоўна пэўны чалавек не стане зазіраць у чужую кішэню, заклікаць да рэвалюцыйнага перадзелу маёмасці, гнявіць Бога за ўласнае жабрацтва...*

*Рымскія патрыцыі кідалі свае палацы, поўныя дабра, і ішлі ў зрэбным адзенні да хрысціян у катакомбы, а зусім небагаты чалавек Францыск з Асіза не патрабаваў ад багацеяў падзяліцца грашыма, а стварыў ордэн (францысканцы), сябры якога ўвогуле адмаўляліся хоць якую ўласную маёмасць...*

*Не хацелася б доўжыць мала чаго вартае маралізатарства бясконцымі прыкладамі з жыцця вялікіх духам... Калі дзяцей няма ўва што апрануць, калі пенсіянеру няма за што купіць лекі, калі наперадзе нічога добрага, то што значаць прыгожыя словы і прыклады?*

*Але, паўторымся, калі і ёсць хоць якая альтэрнатыва матэрыяльнай нястачы, то гэта не грошы (у каго іх няма, у таго яны наўрад ці і з'явяцца), а духоўнае багацце, якое даступна кожнаму з нас, бо вера, мастацтва, культура ўвогуле, як неба і зямля — усюды...*

*На ўсіх хопіць.*

Калонка пра набалелае

## СПРАБУЮЧЫ ВЯРНУЦЬ...

Першыя дні пасля Новага года звычайна напоўненыя лянотай, спакоем і ціхім пакаяннем. Леташнія клопаты засталіся ззаду, займацца новымі пакуль яшчэ не хочацца. Душа нібыта прыслухоўваецца да першых новых нот надышоўшага 98-га года, спрабуючы злавіць у іх сугучную сабе, але забытую мелодыю...

У першыя дні пасля Новага года я адкрываю нататнік і шукаю нумары тэлефонаў сваіх старых сяброў. Што прымушае ўзгадваць пра іх менавіта тады, з 1-га па 13-га? Магчыма, Стары Новы год, што падпільноўвае наперадзе, нібыта вартавы тваёй памяці?

І ўзгадваючы тых, з кім дзяліў гэтае свята ў дні юнацтва, ты міжволі разважаеш не пра наступныя набыткі, а пра былыя страты. Вось нядаўна пайшоў Саша Кішчанка, сябар маёй маладосці і сталасці, — але тут ужо нічога не паправіць. Я кажу цяпер пра іншае: чаму мы згубілі жывых сяброў-прыяцеляў? Як развітваемся з імі? Я кажу пра тых, хто жыве, але расстаўся з намі, тых, хто не тэлефануе, не прыязджае і не прыходзіць у госці...

Ну, з аднымі зразумела: яны сёння, пасля развалу Саюза, жывуць у іншых гарадах і дзяржавах: хто ў Ніжнім Ноўгарадзе, хто ў Петразаводску, хто ў Ташкенце альбо Маскве, хто ў Кішынёве альбо Табольску, а хто і далей — дзе-небудзь у Канадзе... Сустрэцца з імі, шырока абняцца, пасядзець за кубачкам ранішняй кавы — сёння не проста...

А вось тыя, хто побач... Нібыта побач... Адзін, якому ты прадказваў бліскучую мастакоўскую будучыню, з галавой паглыбіўся ў бізнес і ўвесь час аддае абдумванню фантастычных фінансавых праектаў, якія табе абсалютна абыякавыя.

Другі, з якім ты начамі спрачаўся пра будучыню краіны, раптам пайшоў у нейкую "альтэрнатыўную партыю" і пачаў пазбягаць цябе з той адзінай прычыны, што ён цяпер не падзяляе, бачыш ты, лінію тваёй газеты... Трэці, карэнны мінчук, які прымусіў і цябе палюбіць гэты горад, невядома навошта пераехаў жыць у чужую краіну. Чацвёрты, які не знайшоў шчасця ў жыцці, трапіў у алкагольную цемру... Праўда, іншы раз раптам патэлефануе, папросіць "на тыдзень" пазычыць грошай, каб апахмяліцца...

Гісторыі сяброўстваў, што развaліліся, на паверхні заўсёды банальныя, але ў сярэдзіне іх схавана крыецца драма ўзніклых аднойчы непаразумення, несаўдзелу. Ці не ты быў прычынай гэтага? Магчыма, проста не прапанаваў прыяцелю, які трапіў у цяжкую сітуацыю, пазычыць яму грошы. Хаця ж ведаў: ён ганарлівы, не папросіць... Альбо, магчыма, не замовіў слоўца перад знаёмым кіраўніком мастацкага прадпрыемства, каб даць замову беспрацоўнаму сябру, — і яго "прыгрэлі" дзялкі, якімі ты грэбуеш. Альбо не запрасіў пажыць у тваёй кватэры былога сакурсніка па ВНУ, які працягльы час туляўся па выпадковых кутах. Альбо калісьці пакрыўдзіў друкаваным словам прыяцеля за тое, што той "аддаў" на выставу жывапісна-халтурную "нятленку"...

Спрабуючы вярнуць сваіх старых сяброў, мы імкнемся адначасова вярнуцца ў саміх сябе, былых, якія былі, безумоўна, больш наіўнымі, але лепшымі і чысцейшымі за тых, кім зрабіліся пазней...

Спроба амаль безнадзейная. І ўсё ж — паспрабуем...

**Барыс КРЭПАК**

Ліст у рэдакцыю

## ТАКІЯ РОЗНЫЯ "НОВЫЯ БЕЛАРУСЫ"

**Часта даводзіцца чуць: "новыя беларусы... Ні сораму ў іх, ні сумлення..." Так, шмат хто з так званых "новых" заслугоўвае асуджэння. Напрыклад, у мяне быў адзін знаёмы (імя не называю, бо ён не знойдзены і не асуджаны), які здолеў абрабаваць усіх камерсантаў Мінска, у тым ліку і сябра дзяцінства, і з велізарнай сумай (вельмі вялікай!) збег. Куды? На гэтае пытанне Interpol ужо тры гады не можа даць адказ. Да такіх можна прылічыць і іншых дзеячаў "ценявога" бізнесу і крымінальныя элементы, якія акрамя крыміналу рабіць больш нічога не могуць.**

**Але больш цікавай групай з'яўляюцца тыя, якіх ікрой не кармі, а дай толькі наладзіць публічны атракцыён нечуванай шчодрасці — баляванне падчас чумы. Гэтае баляванне наладзіў адзін "круты" (прозвішча не запомніла), які падарыў нашай знакамітасці Аляксандру Іванавічу Мядзведзю 100 (сто) тысяч долараў. Ля экрана тэлевізара назіралі гэты дар і мы, інваліды працы, усе, хто чакае ад дзяржавы субсідый за свае адпрацаваныя гады, але многія з нас так і не дачакаюцца ўласных укладаў, калісьці сабраных па капейчыне на чорны дзень і дадзеных дзяржаве. Чорны дзень надышоў даўно — гэта хваробы, кошты ў краме і старасць, а маладосць, якая даецца для таго, каб забяспечыць старасць, аказалася ў дурнях, гэта значыць, мы яе не бачылі і дажываць няма на што.**

**Паважаны Аляксандр Іванавіч, гонар нашай краіны, я чула, што Вы вельмі актыўна ўдзельнічаеце ў дабрачыннай дзейнасці, не для гісторыі, па закліку сэрца. І ўсё-такі ёсць магчымасць у Вас увайсці ў гісторыю не толькі як зорцы спорту, гэта значыць, адным стрэлам можна забіць двух зайцоў, а менавіта: дапамагчы дзяржаве, ну хаця б за тое, што спорт у нас на першым месцы, а гэта значыць: з вашых 100 тысяч долараў ахвяраваць 5 працэнтаў — гэтай сумы хапіла б на дапамогу інвалідам працы ўсёй краіны. Падумайце, а мы будзем чакаць і спадзявацца.**

**А каб перайсці да наступнага прыкладу, — давайце прааналізуем сітуацыю.**

**З сотні розных дзяцей зрабіць футбалістаў, хакеістаў — колькі трэба прыкласці да іх сіл і таленту, каб знайсці ў іх здольнасць і любоў да гэтай гульні? Думаю, чалавек 80 — 90 са ста зробіце. А калі з гэтых ста дзяцей зрабіць музыкантаў, ды яшчэ скрыпачоў, пры ўсім таленце і поце педагогаў — такіх дзяцей знойдзецца чалавек 5. А заработная плата ў трэнераў і педагогаў, футбалістаў і музыкантаў надта розная. Парадокс? Так! За дзяржаву крыўдна. Аднак гэта тэндэнцыя старых часоў, але ў нас шмат што зараз разумна мяняецца, так што і да гэтага дойдзе чарга — я веру ў гэта.**

**Сёння модна казаць пра адраджэнне культуры, пра выхаванне маладога пакалення на прыгожым, але адны толькі кажуць, а іншыя робяць гэта.**

**І вось прыклад нашага "Савы Марозава". Жыў-быў на свеце музыкант Міхаіл Абрамавіч Панес, але на заробак музыканта сям'ю не пракорміш. І кінуўся музыка ў бізнес. Атрымалася. Ды вось толькі пачало яму сніцца, што віртуознасць валодання скрыпкай памяншаецца, і прачынаецца ён у халодным поце ад такой перспектывы. Міхаіл Абрамавіч збірае музыкантаў высокай кваліфікацыі, захопленых, творчых, і ставарае камерны ансамбль "Рычэркар" (па-італьянску — пошук). Ужо некалькі гадоў ездзяць мінскія віртуозы па Беларусі, выступаюць на дабрачынных вечарах, вернісажах, творчых сустрэчах. А ў бліжэйшы час ад'язджаюць у сталіцу Расіі. Рэпертуар класічны, але падабраны так, што нават у такіх дылетантаў, як я — слязу выціскае. Слухаеш гукі такой цудоўнай музыкі — і крылы вырастаюць, і зноў хочацца жыць, і забываешся на хваробы. Я іх слухаю заўсёды ў Палацы БСП, у касцёле. Але галоўнае захапленне Панесам у тым, што гэты вялікі калектыў ён утрымоўвае з уласнай кішэні, хай не густа плоцяць, але ж па ўласнай ініцыятыве. Поспеху Вам, шаноўны.**

**Марыя САЛДАТАВА, ветэран працы, інвалід III групы, пенсіянерка.**

## ПАКАЗВАЦЬ МОЖНА ЎСЁ. АЛЕ ЦІ ТРЭБА ЎСЁ ПАКАЗВАЦЬ?

***Зрабіць каментар да ліста Марыі Салдатавай "Такія розныя "новыя беларусы" і адказаць на нашыя пытанні мы папрасілі Барыса ГЕРСТАНА, намесніка галоўнага рэдактара творчага аб'яднання спартыўных праграм Беларускага тэлебачання, кіраўніка праграмы "Добрай раніцы, Беларусь!"***



**— Спадар Барыс, як вы лічыце, ці варта, ці правільна паказваць па тэлебачанні такія моманты, пра якія гаворыцца ў лісце?**

— Найперш хачу сказаць, што арганізатарамі згаданага мерапрыемства выступілі Нацыянальны алімпійскі камітэт, Камітэт па спорце і турызму, розныя іншыя арганізацыі. Наша рэдакцыя рабіла толькі трансляцыю. Тым не менш скажу, што пытанне гэтае не першага дня, яно сапраўды датычыць тэлебачання. На маю думку, паказваць трэба ўсё, было б значна горш, калі б нейкія важныя моманты мы выразалі. Атрымліваецца, што нельга было б паказваць шыкоўныя прэм'еры, прэзентацыі, на якія збіраецца бамонд, — іх прыйшлося б таксама выразаць. Тады вы звярнуліся б да мяне з пытаннем, чаму мы не паказалі той ці іншы момант.

А калі падысці да пытання больш дэталёва, то згаданы падарунак быў зроблены з Расіі, з Беларусі падарункі былі больш сціплыя. І на маю думку, Аляксандр Мядзведзь заслугоўвае значна большага.

**— Ці згодны вы з выказваннем, што са 100 дзяцей можна зрабіць 80 — 90 спартсменаў і толькі 5 музыкантаў?**

— Канешне, лягчэй сабраць сто дзяцей і праверыць іх спартыўныя здольнасці, складаней праверыць іх на адчуванне музыкі. Можна зрабіць са ста дзяцей сто дрэнных спартсменаў і сто дрэнных музыкантаў: дай у рукі барабан і няхай лупяць у яго. Таленавітых вельмі мала. Мядзведзь адзіны на ўвесь свет. Калі б са ста жыхароў нашай краіны было восемдзесят спартсменаў ці проста фізкультурнікаў, то наша грамадства было б здаровым. Ёсць талент, а ёсць проста здольнасць. Талент трэба развіваць, і развіваць гэта лягчэй на добрых прыкладах: той жа самы Мядзведзь. Здаровае грамадства — гэта палітыка дзяржавы. Вольга Корбут у Амерыцы стварыла школу, тут яна гэтага зрабіць не змагла. Я быў колькі разоў на розных святах у Франкфурце-на-Майне — там праводзіцца марафон, які становіцца сапраўдным святам для ўсяго горада, у ім удзельнічаюць усе, пачынаючы ад мэра і заканчваючы апошнім дворнікам. Вельмі важна, што ў нашай краіне адносіны да спорту пачалі змяняцца ў лепшы бок. Спорт стаў больш паважаным. Атрымаў дзяржаўную падтрымку. Гэта можна толькі вітаць.

**— Паспрыяць гэтаму можа тэлебачанне. Што ваша рэдакцыя робіць для здзяйснення гэтай мэты?**

— Зразумела, што ўсе нашыя праграмы і перадачы ставяць галоўнай мэтай аздараўленне грамадства. Нядаўна з'явілася новая перадача — "Добрай раніцы, Беларусь!", дэвіз і лозунг якой — выслоўе "Нас дзесяць мільёнаў", гэта значыць, што кожны з нас павінен быць здаровым і мае права, каб пра яго даведаліся іншыя. Гэтая праграма ідзе ў прамым эфіры з 7 да 8 гадзін раніцы. Перадача ўзнікла з "Ранішняга кактэйля", і да нас ужо надышлі лісты, у якіх гэтую перадачу называюць народнай. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам яе з'яўляецца Уладзімір Ісат, мастак-пастаноўшчык Алена Шкаева. Спецыяльна дзеля гэтай перадачы створана студыя, у якую прыходзяць госці, збіраюцца гледачы, у якой вядуцца размовы. Зразумела, што стаўленне да праграмы не можа быць адназначным — камусьці яна падабаецца, камусьці не. Але мы стараемся зрабіць усё, каб кожны з дзесяці мільёнаў жыхароў Беларусі змог знайсці ў гэтай праграме нешта па сваім гусце. У нас ёсць самыя розныя рубрыкі, да нас прыходзяць самыя розныя людзі. Галоўнае — каб гэта ўсё было цікавым.

**— Чаму спартыўная рэдакцыя пашырае тэматыку ў бок сацыяльна-грамадскі?**

— Проста ў нашай рэдакцыі сабраліся вельмі цікавыя і энергічныя людзі, прыйшло шмат моладзі, якая імкнецца ажыццяўляць свае задумы. Так была створана перадача "Стадыён для муз", у якой па задуме будуць сустракацца майстры мастацтва са спартсменамі. Прычым там адбудуцца вельмі цікавыя конкурсы, напрыклад, аркестр Міхаіла Фінберга будзе гу-

# тых, хто побач

Адказ у адказ

## "НЕ ІВАНАВІЧ Я, А ВАСІЛЕВІЧ..."

Ну вось, ужо і падлічылі грошы ў маёй кішэні... Хіба вы не ведаеце пра старую славянскую прымаўку, якая не раіць гэтага рабіць? А на ўсходзе кажуць: не лічы бараноў у атары суседа.

Увогуле людзі, якія грэбуюць народнай мудрасцю, "дэманструюць" усяму свету адну з самых непрыемных чалавечых рысаў — зайздрасць. Мяне ўсё жыццё "пераследавала" легенда пра "багацце Мядзведзя". Аднойчы мне падарылі залаты кубак. А ён быў толькі з пластмасы, пакрыты "залатой" плёнкай. Тое ж было і з "залатым" гадзіннікам, пасамі і медалямі...

Не, я не бедны, але, запэўніваю вас, што не мільянер. Не да канца зразумеў, чаму вы абралі менавіта мяне сваім адрасатам. Назаву вам некаторыя віды спорту, на якія вы зможаце звярнуць сваю ўвагу з прычыны вельмі прыстойных прызоў, што там традыцыйна круцяцца. Гэта шахматы, тэніс, конны спорт... А яшчэ ёсць безліч алімпійскіх чэмпіёнаў, акрамя мяне. Ды і дэпутаты нашы, і генералы нібыта някепска атрымліваюць. Чаму б і ім не ўзяць удзел у акцыі "5 працэнтаў"? Але як жа быць не толькі з інвалідамі, а і з тымі сотнямі тысяч людзей, якія жывуць за рысай беднасці? Можа, усе грошы ў грамадстве, зароблены і падораныя, валюту і "драўляныя", усе, што ёсць ва ўсіх, скласці і падзяліць пароўну? І мы зноў будзем жыць у "адзінай дружнай сям'і брацкіх народаў"...

Я не стаў бы адказваць на ваш ліст, спадарыня Салдатава, калі б не павага да газеты пад назвай "Культура". Ваш ліст зноў засведчыў, што нашаму грамадству яшчэ доўга ісці да годнасці і высакародства. Я паўтаруся: больш за ўсё ў чалавеку не прымаю зайздрасці. Яна здольная стаць прычынай любога злачынства. Яна і стала падставай для самага буйнога бедства на зямлі — стварэння сілавога ладу "ўсеагульнай роўнасці".

Я хацеў бы паставіць перад вамі пытанне: чаму я не напісаў вам ліст, каб вы пералічылі мне 5 працэнтаў вашага заробку, калі я, служачы ў войску, атрымліваў 3 рублі 50 капеек на месяц і штодзень па 3 — 4 гадзіны трэніраваўся на дыване?



І яшчэ адно пытанне: чаму б вам не напісаць мне ў дзень майго вяселля? Бо мне там таксама рабілі падарункі. А калі б усе мадлая ад сваіх падарункаў ды па 5 працэнтаў? "Вар'яцкая лічба!" — як казаў Райкін. Камісію б стварыць пры Вярхоўным Савеце — па дабраахвотным адлічэнні ад падарункаў.

Якая моцная ў нас "культура" падзелу, прывітая нашым мінулым, нашым духам і нашай ідэалогіяй. Мяркуючы па вашым лісце, не шмат што ў нас памянялася...

Мне не вельмі прыемна пісаць вам усё гэта. Я такі чалавек, як і вы. І не нарадзіўся ні алімпійскім чэмпіёнам, ні прафесарам, ні настаўнікам.

Вы падпісаліся: інвалід III групы. Я жыву ў той жа краіне, што і вы, і ведаю, хто колькі атрымлівае. Я магу вам паспачуваць і пашкадаваць, што вам "даводзіцца" ў якасці аргумента кідаць на вагі сваю інваліднасць: хаця б такім чынам, але "здабыць" для пакрыўджаных трошкі грошай у Мядзведзя. А жыццё вам павінна забяспечыць дзяржава, і ніякі тройчы алімпійскі чэмпіён Мядзведзь не ў стане вырашыць такую задачу, нават калі яго тройчы абвінавацяць у гэтым.

Цяпер наконт інваліднасці. Я рэдка абнародваю гэтыя факты, але калі ўжо пайшла такая размова... Чвэрць стагоддзя таму, праводзячы мяне на маю трэцюю Алімпіяду ў Мюнхен, Пётр Міронавіч Машэраў адвёў мяне ў бок і сказаў: "Урачы паведамілі, што табе нельга ехаць, што трэба даць адпачынак сэрцу. Ты і так шмат зрабіў для Беларусі, можа, хопіць двух алімпійскіх медалёў, а?" Я папрасіў дазволу паехаць і прывёз трэці медаль. Чаго мне гэта каштавала, казаць не хочацца. Дасюль сэрца не дае на сябе забыцца... Нават да рэанімацыі...

Дык вось, калі б я тады пайшоў да ўрачоў, — другая група інваліднасці была б мне забяспечаная. І атрымліваецца, што інвалід просіць у... Не, я не інвалід. Я не хачу ім быць. І грошы, якія я маю, — зароблены толькі мной. І колькі за гэтым поту і болю, ведаю толькі я. Лёгкі хлеб спартсмена... Калі б не давялося адказваць на ваш ліст, магчыма, і не нагадваў бы, што на зямлі не было і пакуль няма другога тройчы алімпійскага чэмпіёна па вольнай барацьбе, акрамя Мядзведзя. І мне добра таму, што я, сын лесніка, каму цяжэй за многіх іншых было прабівацца ў жыцці, ніколі ні ў каго нічога не прасіў, тым больш, не патрабаваў. І дзяцей, і ўнукаў гэтаму вучу.

Большасць людзей нараджаюцца з аднолькавымі біялагічнымі і фізічнымі магчымасцямі. Хтосьці робіцца слесарам, хтосьці трэнерам, а хтосьці — нахлебнікам. І тут пачынаецца пошук: у каго адабраць, а калі не атрымалася — выпрасіць... Да якой жа пары замест працы і настойлівасці, адказнасці хаця б за сябе мы будзем лічыць грошы ў чужой кішэні? Вы ўбачылі 100 тысяч, а адкуль яны, што за імі і — хто, хіба вы ведаеце? Я ўзгадваю шмат чэмпіёнаў у былым СССР, і ў сённяшняй Расіі ў мяне велізарная калькасць сяброў. Яны ўсе "скінуліся" і падарылі мне гэтыя грошы.

Я разумею, што нельга гэты дар у нашыя нялёгкія дні рабіць фактам масавага відовішча па тэлебачанні. Я пра гэта сказаў. Мяне не паслухалі. Не, само дарэнне не мае пад сабой нічога сумніўнага, але трансляцыя ягонам мае адценне амаральнасці: шмат людзей жывуць цяжка. Я і шкадую пра тое, што шмат каму гэта папсавала нервы, у тым ліку і вам.

Хачу прапанаваць усім, хто мяркуе гэтаксама, як вы, міні-тэст: "Чаму дораць мне, а не вам?" Магчыма, калі вы шчыра адкажаце сабе, вы зразумееце, які некарэктны ваш ліст, дзе вы толькі з той прычыны, што маеце інваліднасць і малую пенсію (ці Мядзведзь у тым вінаваты?), надалі сабе права ўсенародна "ўдарыць" мяне за багаты, з вашага пункта погляду, падарунак. У чым мая віна? Дзе і калі я прыўлашчыў не мае грошы? Здзейсніў непрыстойны ўчынак?

... Мне прыемна цяпер, на гэтым фоне, узгадаць, што калі мы выступалі ў Турцыі, наш пасол падышоў да мяне і падзякаваў за тое, што адным сваім выступленнем я зрабіў для нашай краіны больш, чым уся амбасада на працягу года. Як мне ад гэтага "прыбытку" адлічыць вам 5 працэнтаў? Так, такім, як вы, ветэранам працы, трэба дапамагаць. Гэта павінны рабіць і дзяржаўныя органы, і грамадскія арганізацыі, і, безумоўна, прыватныя асобы. Але я катэгарычна супраць падобных прыёмаў, якімі вы карыстаецеся ў сваім лісце.

Замест даведкі. Я даўно і трывала займаюся дабрачыннай дзейнасцю па лініі Алімпійскага камітэта. Гэта дзейнасць тычыцца дзяцей-сірот, якія займаюцца спортам.

І яшчэ адно, апошняе. Мяне ўразіла і такая дробязь: вы наважыліся абнародаваць у мой адрас такую нясціплую "прапанову" і — не патурбаваліся даведацца пра маё імя па бацьку... Не Іванавіч я, а Васілевіч.

**Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ,**
**Прэзідэнт Федэрацыі барацьбы Рэспублікі Беларусь, Віцэ-прэзідэнт Алімпійскага Камітэта РБ, тройчы алімпійскі чэмпіён, ганаровы грамадзянін Мінска, загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі, радыёэлектронікі і вылічальнай тэхнікі, прафесар.**

---

ляць у футбол, а Нацыянальная зборная Беларусі па футболе будзе спрабаваць нешта зрабіць з музычнымі інструментамі. Спорт — гэта частка нашага жыцця. Спартсмены такія ж людзі, як і мы, толькі кожны з іх можа хутчэй бегаць, скакаць, плаваць. Ва ўсім астатнім яны падобныя да нас. Філасофія спорту — філасофія жыцця ў канцэнтраваным выглядзе.

**— Марыя Салдатава, якая напісала да нас ліст, з'яўляецца інвалідам III групы. Наколькі я ведаю, вы займаліся пытаннямі спорту інвалідаў. Інвалід і спорт, што самае галоўнае ў гэтым спалучэнні?**

— Так, сапраўды. Я раней вёў праграму "Бар'еры", якая стала зараз рубрыкай праграмы "Тэлеспорт". Інвалід у спорце: тут вельмі важна пераадолець перш за ўсё псіхалагічныя бар'еры. Часам вельмі складана інваліду з'явіцца на вуліцы не толькі па фізічных прычынах. У нашым грамадстве павінна панаваць ідэя роўнасці інвалідаў з іншымі людзьмі. За мяжой спорт інвалідаў — гэта вельмі прэстыжная справа. У нашым грамадстве таксама назіраюцца зрухі ў гэтым плане ў лепшы бок. Таму мы і паказалі па тэлебачанні чэмпіянат Беларусі па танцах на інвалідных калясках. На паралімпійскіх гульнях у Атланце беларуская зборная заваявала 12 медалёў. Пасля Алімпійскіх гульняў у Нагане праз месяц будуць паралімпійскія гульні, на якія едзе і беларуская зборная. Усе людзі роўныя адзін перад адным і маюць магчымасць гэта давесці на справе.

**Гутарыў Міхась БАШУРА**

---

## ЭЛІТА ПАВІННА ЖЫЦЬ ДОБРА

***Арыентуючыся на ліст, атрыманы рэдакцыяй "Культуры" ад спадарыні Салдатавай, наш спецыяльны карэспандэнт сустрэўся з салістам Беларускай дзяржаўнай філармоніі, дырыжорам аркестра "Рычэркар" Якавам ГЕЛЕРАМ.***

**— Дык, што, сапраўды ў вашым аркестры "Рычэркар" ёсць нейкі легендарны Міхаіл Панес?**

— Так, гэта першая скрыпка нашага аркестра: чалавек, які з'яўляецца членам нашага калектыву больш за 30 гадоў. Дарэчы, сёлета "Рычэркару" споўнілася 30 гадоў. Менавіта тады Барыс Моткін — скрыпач, вельмі цікавы чалавек — стварыў ансамбль скрыпачоў пры Палацы культуры прафсаюзаў. Але праз нейкі час ансамбль стаў аркестрам. Прычым, што важна, тут ігралі людзі, якія ў сваёй большасці не былі прафесійнымі музыкантамі. Шэсць гадоў таму Барыс Моткін трагічна загінуў. І аркестрам пасля гэтага кіраваў Эдуард Кучынскі, які цяпер працуе ў каледжы пры Акадэміі музыкі. Пасля яго аркестрам кіраваў загадчык кафедры агульнага фартэпіяна Беларускай Акадэміі музыкі Барыс Спектар. Так сталася, што апошнія два гады калектывам "Рычэркар" кірую я. Сапраўды, асоба Міхаіла Панеса даволі неардынарная і цікавая. Гэта чалавек, які шчыра любіць музыку. Ён вырашыў, што справа, якую пачынаў трыццаць гадоў таму Барыс Моткін, не павінна прапасці. Паралельна з ігрой у аркестры ён займаецца бізнесам. Таму і выступае ў ролі выратавальніка — ён наш галоўны арганізатар і фундатар.

**— Што вы думаеце пра ліст Марыі Салдатавай?**

— Я ведаю, што спадар Мядзведзь праводзіць міжнародны турнір барцоў у Рэспубліканскім Палацы спорту, а гэта каштуе вельмі вялікіх грошай. Гэта турнір Мядзведзя. Таму, на мой погляд, нетактоўна абмяркоўваць грошы, зароблены нашым выдатным спартсменам. Бо гэты чалавек — гонар нацыі. Няма многія маюць права на добрыя грошы, а спадар Мядзведзь адзін з нямногіх — унікальны чалавек. Такія людзі павінны мець шмат, каб не адчуваць бытавых праблемаў. Ды хто яшчэ сярод беларускіх барцоў мае званне Тройчы чэмпіёна Алімпійскіх гульняў? Я лічу, што мы абавязаны мець эліту, нейкіх выбітных людзей — спартсменаў, людзей мастацтва. А эліта заўсёды жыла і павінна жыць лепш за астатніх. Тыя, хто аддае сябе без астатку спорту, часта, у выніку многіх абставінаў, становяцца інвалідамі ці атрымліваюць хранічныя хваробы на ўсё жыццё. Але яны змагаюцца за славу сваёй краіны. Канечне, з-за таго, што нашае грамадства сёння знаходзіцца ў эканамічным крызісе, многія добрыя падзеі ўспрымаюцца не вельмі пазітыўна і, на жаль, часам у зусім іншым ракурсе. Я думаю, што грошы на праблемы нашага жабрацтва павінны вырашаць не спадар Мядзведзь, а людзі, якія стаяць каля руля нашай краіны.

**— Хто з прафесараў Акадэміі паспрыяў вашаму творчаму развіццю?**

— Юрый Яфімаў — народны артыст Рэспублікі Беларусь, галоўны дырыжор Акадэмічнага сімфанічнага аркестра філармоніі. На жаль, у 1991 годзе яго не стала. Дык дзіўна, што смерць такога чалавека ў нас была адзначана толькі некралогам. У беларускім музычным асяродку гэтую трагічную падзею неяк праігнаравалі. А ў Пецярбургу ў ягоны гонар цэлы тыдзень гучалі канцэрты.

**— З якімі праблемамі сутыкаецца ваш аркестр?**

— Больш за ўсё непакоіць, што ў нас даволі часта змяняецца склад калектыву. З гэтай праблемай сутыкаюцца ўсе прафесійныя аркестры. Не заўсёды мяне задавальняе і наш рэпертуар. Бо мы рэпеціруем два разы на тыдзень, чаго яўна замала. Хочацца граць на больш высокім прафесійным узроўні. Але мы пастаўлены ў такія абставіны, што "Рычэркар" не можа стаць прафесійным аркестрам, бо для гэтага патрэбны вялікія сродкі. А з другога боку, можа, да гэтага і не трэба імкнуцца. Мне з "Рычэркарам" цікава, бо тут я выступаю не толькі як дырыжор, але і як флейтыст.

**— Я так разумею, што, нягледзячы на непрафесійны статус аркестра, выступаеце вы многа?**

— Асноўное месца нашых выступаў — у Палацы культуры прафсаюзаў — гэта Белая зала, проста цудоўнае месца. За ўсю гісторыю свайго існавання наш аркестр выступаў у Маскве, у Арменіі, у Літве.



Летась на адкрыцці выставы нашага выдатнага беларускага мастака Міколы Селешчука, які, на жаль, трагічна загінуў, мы выступалі разам з Дзяржаўным камерным хорам Ігара Мацюхова... Вось цяпер мы толькі што прыехалі зноў з Масквы, дзе быў цудоўны канцэрт, ён праходзіў у рамках фестывалю, прысвечанага 50-годдзю са дня смерці вядомага савецкага акцёра Саламона Міхоэлса. Канцэрт, у якім мы бралі ўдзел, праходзіў у тэатры на Малой Броннай. Там было шмат выканаўцаў сусветнага ўзроўню, якія выконвалі габрайскія песні. Мы ігралі музыку Альбіноні, Баха, Гендэля. Не магу яшчэ раз не ўзгадаць Міхаіла Панеса. Менавіта дзякуючы яму і яго калегам мы пабывалі ў Маскве. Таму наконт Міхаіла Панеса спадарыня Салдатава сказала шчырую праўду.

**Запісаў Зміцер ВОЛКАЎ**

# ФЕНОМЕН ЦІХАНА ХРЭННІКАВА




***Усем гадзін раніцы пасля прыбыцця на чыгуначны вакзал цягніка "Масква — Мінск" і зрабіў гэтыя кадры наш фотакарэспандэнт. Жывога класіка, народнага артыста СССР Ціхана Хрэннікава, "апошняга з магікан" той бліскучай плеяды кампазітараў, якая назаўсёды застанецца ў аналах сусветнай культуры, сустракалі з непрыхаванай радасцю. Крыху пазней Ціхан Мікалаевіч меў сустрэчу з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. Вось што кампазітар, у прыватнасці, сказаў нашаму карэспандэнту незадоўга да гутаркі з кіраўніком дзяржавы.***

— Удзячны і вельмі рады, што мяне запрасілі на з'езд кампазітараў Беларусі, бо я даўно не бачыў сваіх беларускіх калег. Я заўсёды ставіўся да іх творчасці з увагай і цікавасцю. А старшыня Саюза кампазітараў вашай краіны Ігар Лучанок — мой вучань і сябра. Мяне радуе, што з'езд адкрываецца вялікім вечарам беларуска-рускага творчага сяброўства: у ім будзе прадстаўлены твор выдатнага беларускага кампазітара, майго даўняга сябра Анатоля Багатырова і мой фартэпіянны канцэрт. Мы з Анатолем Васілевічам, здаецца, нават з аднаго года нараджэння, але і ён яшчэ працуе ў кансерваторыі, і я працую. Мой Трэці фартэпіянны канцэрт выканае выдатная беларуская піяністка Шуміліна. Разам са мной у Мінск прыехаў самы знакаміты рускі скрыпач, майстар экстра-класа, сусветнавядомы Максім Фядотаў. Ён будзе іграць мой Другі канцэрт, а дырыжыруе бліскучы Аляксандр Вядзернікаў, сын найвыдатнага спевака Вялікага тэатра Расіі.

На жаль, за развіццём беларускай кампазітарскай школы я сачу не так пастаянна, як хацелася б, бо сувязі, якія былі раней, парушаны, і мы, дзеячы культуры, павінны думаць аб аб'яднанні творчай прасторы, прынамсі, у рамках саюзаў кампазітараў дзвюх дзяржаў. Гэта проста неабходна ў працэсе далейшага развіцця двухбаковых стасункаў. Бо Расія без Беларусі жыць не можа, і Беларусь, я так разумею, таксама зацікаўлена ў пашырэнні разнастайных кантактаў з маёй краінай. Я заўсёды ставіўся да беларускага народа з вялікай павагай і лічыў, што гэта адзін з самых цудоўных народаў у сям'і тагачаснага СССР.

Сёння многія дзеячы культуры смуткуюць з-за таго, што яны раз'яднаныя. Трэба аб'ядноўваць творчыя намаганні, і трэба тых людзей, якія вамі і намі кіруюць, настройваць на сур'ёзную дапамогу культуры. Я гаварыў і яшчэ раз скажу: без дзяржаўнай дапамогі культура і мастацтва развівацца не будуць. Нельга свае мары пра поспехі звязваць з падачкамі багатых людзей, якія не надта любяць выцягваць грошы з кішэні на духоўнасць. Сапраўдны росквіт музычнай культуры магчымы толькі тады, калі фундатарам яе стане дзяржава...

*У свае 85 гадоў гэты фенаменальны творца плённа працуе. Не так даўно ажыццявілася пастаноўка яго балета "Напалеон Банапарт", а цяпер ранак творцы пачынаецца з працы над партытурай да балета "Капітанская дачка".*

*Застаецца толькі захапляцца талентам і працаздольнасцю маэстра!*

**Леся АЛЯКСЕЙЧЫК**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "КВЕТКА БАЛЕТА ФІЛІП МОРЫС" — У КАЦЯРЫНЫ ФАДЗЕЕВАЙ

14 студзеня ў Вялікім тэатры адбылося ўрачыстае ўручэнне прыза кампаніі "Філіп Морыс" лепшаму артысту беларускага балета мінулага года. Як засведчыў на прэс-канферэнцыі прадстаўнік кампаніі Дзмітрый Хрол, вызначала лепшага творчае журы пад старшынствам кіраўніка Нацыянальнага тэатра балета Валянціна Елізар'ева. "Філіп Морыс" ніякім чынам не ўплываў на рашэнне гэтага журы, па сутнасці, кампанія толькі перадала ўзнагароду вызначанаму артысту. Першапачаткова былі абраны пяць намінантаў сярод артыстаў тэатра, якія летась найбольш вызначыліся ў новых спектаклях — балетах "Страсці", "Раймонда", "Вясна святарная". І толькі непасрэдна на сцэне ў свеце юпітэраў пад позіркамі паўтары тысячы гледачоў перапоўненай залы спадар Хрол выцягнуў з канверта картку з імем лаўрэата — ёй аказалася Кацярына Фадзеева, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржпрэміі, лаўрэат двух міжнародных балетных конкурсаў. Такім чынам, меркаванне высокага журы, у склад якога ўваходзілі аднадумцы і паплечнікі Валянціна Елізар'ева і чыё рашэнне было аднадушным, супала з назіраннямі нашай газеты: "Культура" яшчэ ў кастрычніку мінулага года (№ 40) пазнаёміла чытачоў з балерынай Фадзеевай у артыкуле з назвай "Этуаль" ("Зорка").



Прыз "Кветка балета Філіп Морыс" мае сваёй мэтай аказаць фінансавую падтрымку таленту для далейшага прафесійнага росту і публічна заахвоціць перспектыўнага танцоўшчыка. Ён складаецца са шклянога кубка і грашовай прэміі. (Наша лаўрэатка атрымала 5000 долараў ЗША). Сам кубак "Кветка балета" распрацаваны ў 1993 годзе студэнтамі Цэнтральнага каледжа мастацтва дызайну ў г.Турдэ-Пеліз — Стэфані Шусэр і Эрыкам Бахчаджанам пад кіраўніцтвам Гранда Пэтэрсана. За гэтую сапраўды высокамастацкую працу "Філіп Морыс" перадаў каледжу 14 тысяч швейцарскіх франкаў. "Кветка балета" была распрацавана да 35-годдзя праграмы падтрымкі мастацтва кампаніі і для таго, каб узмацніць значнасць і зацікаўленасць кандыдатаў. Звычайна прызам адзначаецца лепшы танцоўшчык, а дадаткова заахвочвальнымі прызамі — усе намінанты. Так было і ў нас: Таццяна Шаметавец, Уладзімір Даўгіх, Веніямін Захараў і Руслан Мінін атрымалі грашовы складнік такой прэміі — па 500 долараў ЗША. (Кубак "Бутон Філіп Морыс" пакуль што не ўручаўся.) Такім чынам, беларускія танцоўшчыкі трапілі пад добразычлівую ўвагу адной з найбуйнейшых у свеце кампаній следам за танцоўшчыкамі з Фінляндыі (дарэчы, там прыз "Філіп Морыс" лічыцца самым буйным), Венгрыі, Чэхіі, Славакіі, Швецыі і Расіі. У наступным годзе "Філіп Морыс" мяркуе падтрымаць балет Польшчы.

**Ігар КЛОКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ЯПОНСКАЯ АРХІТЭКТУРА Ў ДОМЕ БЕЛАРУСКІХ АРХІТЭКТАРАЎ

Адкрываючы 14 студзеня фотавыставу "Сучасная японская архітэктура (1985 — 1996 гг.)", наладжаную японскім фондам, Амбасадай гэтай краіны і Беларускім Саюзам архітэктараў, Паверааны ў справах Японіі ў Рэспубліцы Беларусь пан Сігэо Нацуі і прэзідэнт Беларускага Саюза архітэктараў Яўген Кавалеўскі былі па-японску ўзаемна ветлівымі і па-беларуску — добразычлівымі.

Адзін скончыў сваю кароткую прамову ўпэўненасцю ў тым, што гэтая выстава стане яшчэ адным крокам да збліжэння двух народаў, другі выказаў спадзяванне на тое, што гэтай выставе будзе ўтульна ў Доме беларускіх архітэктараў, якія з нязменнай беларускай гасціннасцю прымаюць у сябе японскіх сяброў і іхняе таленавітае мастацтва.

Раздзелы выставы адлюстроўваюць "архітэктурны твар" японскага горада, раёна, мястэчка, адроджаных земляў... Не ўпершыню мы аддалі даніну дасягненням Японіі ў эканоміцы, навуцы, вытворчасці. Японскае — гэта, зазвычай, таленавітае. Адзінае, што падлягае абмеркаванню — наколькі гэта таленавіта. Тое, што ўбачылі наведнікі выставы, гэта высокія ўзоры архітэктурнага мастацтва, што пераступіла ўжо сёння за мяжу другога тысячагоддзя. Уразіў і антураж — дух Усходу, які здолелі стварыць гаспадары — беларускія архітэктары: загадкавае асвятленне, "бягучыя" агні, папяровыя жураўлі пад столлю, і — зачароўваючая японская музыка... Гэта ўсё суправаджае вас да самай выставачнай залы, якая расхінае каляровую панараму сучаснай перадавой краіны.

Пан Нацуі шкадаваў аб тым, што надпісы пад цудоўнымі фатаграфіямі, з прычыны недахопу часу, не былі перакладзены на рускую мову. Але ўсе прысутныя пагадзіліся з тым, што калі архітэктура — гэта музыка, якая гучыць, а музыка — інтэрнацыяльная, дык усе без сумнення зразумеюць, пра які сацыяльны і эканамічны ўзровень Японіі нам распавядаюць фатаграфіі выставы.

Падчас лёгкага фуршэта я папытаўся ў японскага дыпламата, што зрабіла на яго самае моцнае ўражанне ў дзень адкрыцця выставы. Ён адказаў:

— Не проста ўражанне — я адчуваў хваляванне! Гэта быў такі дарагі для нас, японцаў, сюрпрыз — мы ўбачылі ў мініяцюры наш сад камянёў! Яны ляжалі пасярод выставачнай залы, на спецыяльным дыване і так нагадвалі нам далёкую радзіму. Мы адчулі сярод зімы цеплыню беларускіх сэрцаў.

**Навум ЦЫПІС**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# І МЫ ПАМЯТАЕМ "САЛАЎЯ СЛАВЯНСКАЙ ПАЭЗІІ"...

***13 студзеня ў Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі адбылася творчая вечарына культурнага таварыства "Беларусь — Украіна", прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага ўкраінскага паэта Уладзіміра Сасюры.***

На вечарыне, напоўненай аурай сардэчнай чалавечай цеплыні, з чытаннем вершаў "салаўя славянскай паэзіі" і ўспамінамі пра яго як пра чалавека, творцу, грамадзяніна і вялікага сябра беларускага народа выступілі літаратары Васіль Жуковіч (вядучы імпрэзы), Сяргей Законнікаў, Мікола Аўрамчык, Сяргей Грахоўскі, Вячаслаў Рагойша, Валянцін Вейнер, выкладчыца БДУ Галіна Сапсой, студэнты-славяністы БДУ. Рэфрэнам гучалі сасюраўскія радкі з паэмы "Расстраляная несмяротнасць", дзе



*Злева направа: В.Гайсёнак, Н.Іванова і У.Жаліба.*

паэт разам з рэпрэсаванымі ўкраінскімі і расійскімі літаратарамі цёпла ўзгадваў і беларусаў — Чарота, Дубоўку, Гурло, Александровіча, Дудара, Гартнага.

А паэтычныя радкі Сасюры "Беларусь, ты мая Беларусь, сінявокая сястра Украіны" былі сустрэты апладысментамі.

Таксама цёпла зала апладзіравала і ўкраінскім народным песням ў выкананні харою Цэнтра нацыянальнай культуры "Січ". Не абышлося і без сумных хвілін. У гэты дзень удзельнікі вечарыны развіталіся з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзімірам Іванавічам Жалібай, які за пяць гадоў дыпламатычнай працы ў нашай краіне зрабіў выдатны ўнёсак у справу ўмацавання сяброўства і культурных сувязяў паміж братнімі народамі. Пра гэта прачула казалі старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі Арсен Ваніцкі, прэзідэнт таварыства "Беларусь — Украіна" Віктар Гайсёнак, іншыя афіцыйныя і неафіцыйныя асобы.

У заключнай прамове У.Жаліба прызнаўся ў сваёй душэўнай любові да беларускай зямлі, да яе людзей, да яе культуры.

**Б.К.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# МАЙСТАР ПЕРАЎВАСАБЛЕННЯ





22 студзеня ў Нацыянальнай оперы адбудзецца вечар, прысвечаны 40-годдзю творчай дзейнасці народнага артыста Беларусі Віктара Чарнабаева. За гэты час ён выканаў на сцэне каля 100 партый самага рознага плана. Але найбольш удалыя, непаўторныя яго камічныя ролі. Яго майстэрства пераўвасаблення, выразнасць мімікі і пластыкі амаль легендарныя. У кожнай сваёй партыі, у кожным выступленні Віктар Максімавіч знаходзіць шлях да сэрца гледача. У свой юбілейны вечар Чарнабаеў выконвае партыю Бартала ў "Севільскім цырульніку".

**Наш кар.**

# РЫТМ, ШТО ЗАПАЛЬВАЕ

У Рэспубліканскім палацы дзяцей і моладзі прайшоў джазавы фестываль. Мерапрыемства ладзілася сіламі саміх музыкаў — біг-бэндам пад кіраўніцтвам Васіля Коназа. Можа таму, што адчуваўся пэўны недахоп грошай, а можа па нейкай іншай прычыне, але колькасць наведнікаў была абмежаваная музыкамі, журналістамі ды сябрамі і знаёмымі выступоўцаў. Грошы на правядзенне свята выдаткаваў Палац, за што дырэктару Галіне Шкляр вялікі дзякуй. Канечне, хацелася б, каб на падобныя фестывалі маглі патрапіць усе жадаючыя. Хаця ідэя правядзення канцэртаў для абмежаванага кола аматараў прыгожага, як кажуць у народзе, "для элітнай публікі", таксама мае права на існаванне. Бо тут ва ўтульнай атмасферы прафесійныя музыкі могуць пагутарыць, абмеркаваць свае праблемы, абмяняцца ідэямі, наладзіць творчае спаборніцтва. На мой погляд, правядзенне фестывалю ў кавярні Палаца выдатная падзея. Бо відавочна, што гэтая музыка патрабуе адпаведнага "інтэр'ера" для яе ўспрыняцця. Удзельнікі і слухачы маглі пасядзець за столікам, бясплатна папіць кавы, колы, піва і з'есці піражное. Быў на фестывалі і свой абаяльны вядучы — Васіль Коназ, і свой Дзед Мароз са Снягуркай. Так, Снягурку выбіралі сярод прысутных. Усе былі адзінадушныя ў гэтым выбары — мастачка Ганна Ціханава, сапраўдная джазавая Снягурка: яна, апранутая ва ўсё чорнае з вялікай іскрыстай каронай, запальвае сімвалічную фестывальна-навагоднюю свечку.

Я б сказаў, што на вечары было два канцэрты. Так, на першым галоўнымі выступоўцамі і слухачамі былі юныя музыкі. Не блага сябе зарэкамендавалі музыкі са студыі пры Палацы моладзі: Таццяна Сярбоўская (труба), Пётра Марцінкевіч (труба), Зміцер Найдзіновіч (трамбон), Яўген Дакшыцкі (саксафон). Добра выступіў ансамбль "Jazz Friends" (г.Мінск). Пасля паўгадзіннага антракту пачаліся выступы мэтраў. Дыксіленд "Рэнесанс" пад кіраўніцтвам Мікалая Лапцёнка (г.Мінск) выканаў традыцыйную амерыканскую музыку і некалькі апрацовак беларускіх народных песень. Ансамбль Беларускага універсітэта культуры пад кіраўніцтвам Уладзіміра Бялова сыграў некалькі джазавых мелодый. Вакалістка Іна Багадзяж проста ўсіх зачаравала — прыгожа і стыльна. Пасля распачаўся выступ аркестра пад кіраўніцтвам Вячаслава Міхновіча (г.Мінск). Загучала музыка — Джоржа Гершвіна, Дзізі Гілеспі, Дзюка Элінгтона. Дыксіленд "4/4" пад кіраўніцтвам Васіля Коназа выканаў традыцыйную амерыканскую музыку. А пасля распачаўся "Джэм-Сэйшн", дзе загучалі экстравагантныя экспромты. Тут музыкі ўжо па-сапраўднаму паказалі сваю віртуозную ігру. Як кажуць у народзе, "разгарнулі сваю душу". Я прабыў на фестывалі з дзвюх гадзін да дзевяці, і, калі сыходзіў дахаты, адчуваў — мала. Бо калі ўтворыцца цуд, ты быццам засынаеш... Я і цяпер чую тыя рытмы, што запальваюць, бачу элегантных музыкаў у фраках і блішчастыя, нібыта залатыя, інструменты.

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# КРЭДА ЛІПЕЦКІХ МАСТАКОЎ



*Ю.Грышко. "Сяргей Рахманінаў".*



*В.Сарокін. "Партрэт старога (аўтапартрэт)".*

***14 студзеня, у рамках Дзён Ліпецкай вобласці ў Рэспубліцы Беларусь, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбыўся святочны вернісаж. На гэты раз беларускім гледачам былі прадстаўлены творы расійскіх мастакоў з Ліпецка Віктара Сарокіна і Юрыя Грышко.***

Творчасць народнага мастака Расіі жывапісцалірыка Віктара Сарокіна цалкам прысвечана роднай прыродзе, яе бясконцым метамарфозам, напоўненым мастакоўскім перажываннем, радасцю і шчасцем быцця, першаснай стыхійнай квеценню фарбаў і душэўнай чуласцю.

Юрый Грышко, скульптар, таксама народны мастак Расіі. Летась ён быў абраны членам-карэспандэнтам Расійскай Акадэміі мастацтваў. Ягонае творчае крэда: "Люблю жыццё, люблю чалавека. Ідэальных людзей няма. Але я хачу распавесці пра лепшае, прыгожае, што ёсць у кожным чалавеку". І пра гэта ён натхнёна распавядае ў сваіх бронзавых партрэтах сучаснікаў — мастакоў і акцёраў, пісьменнікаў і проста блізкіх і любімых людзей.

Беларусы ўдзячныя Упраўленню культуры і мастацтва Адміністрацыі Ліпецкай вобласці за прадастаўленую магчымасць пабачыць "чалавечае" мастацтва таленавітых творцаў і спадзяюцца, што такія сустрэчы на беларускай і расійскай зямлі зробяцца рэгулярнымі.

**Наш кар.**

# МАГІЯ СВЯТЛА І ЦЕНЮ



*С.Блажко., Хоцімск, 1889 г.*
*З прыватнага збору М.Раманюка.*

У галерэі "NOVA" праходзіць фотавыстава "Сховішча святла", на экспазіцыі прадстаўлены фотаздымкі з прыватных збораў Міхася Раманюка і Уладзіміра Парфянка. Беларускае фотамастацтва, ягоныя пошукі і дасягненні — гэтак я б ахарактарызаваў галоўную канцэпцыю выставы. У прадмове да экспазіцыі ёсць гэткія словы: "Фатаграфія — адна з унікальных творчых практык, вядомых чалавеку, паколькі мяжуе яна хутчэй з магіяй, чымся з тэхналогіяй..." Так, тыя фота, што трапляюць на вочы наведнікаў, выклікаюць самыя розныя рэакцыі. Магі ад фотаапарата гіпнатызуюць нас розным настроем, рознай паэтыкай. Два фотаздымкі М. А. Зубей распавядаюць пра Давыд-Гарадок пачатку 1900-х гадоў. Разглядаючы на працах людзей тых часоў, я чамусьці ўзгадаў нашага сучасніка-паэта Леаніда Драньк-Майсюка. Можа таму, што вышэйназваныя фота дыхаюць паэзіяй, а можа таму, што паэт родам з Давыд-Гарадка? Уражвае фотатрыпціх "Базар на лодках", дзе невядомым магам зафіксаваны Пінск 1930-х гадоў — "панарама на Панамах". Сучасныя чарадзеі працуюць ужо са звышпрасторай, бо інакш можна акрэсліць тое, што нам прапаноўваюць Кірыл Ганчароў, Генадзь Родзікаў, Уладзімір Шахлевіч, Андрэй Савіцкі ды іншыя?

**З.В.**



У галерэі сучаснага мастацтва "АВ" у Мінску адкрылася выстава скульптуры Валянціна Барздога. Экспазіцыя прадэманстравала, што ў мастацтва традыцыйнай скульптуры актыўна ўваходзіць новы, са сваім светапоглядам маладзёжны накірунак.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

**Рэдакцыя газеты "Культура" выказвае глыбокае спачуванне члену рэдакцыйнай калегіі, народнаму артысту Беларусі, кінарэжысёру Міхаілу Пташуку з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці.**




ЛЯ ФАНТАНА


Марына Дударава і Сяргей Журавель.

# У ЧЫМ САКРЭТ ШАХРАЗАДЫ?

**Уладзімір МІХАЛЬЦОЎ**
**Аляксандр БАЧЫЛА (фота)**

Дзяржаўны Маладзёжны тэатр Рэспублікі Беларусь, які вось ужо сем гадоў "прапісаны" ў будынку былога кінатэатра "Спартак", падрыхтаваў чарговую прэм'еру: спектакль "Сакрэт Шахразады". Пастаноўка адразу прыцягнула ўвагу тэатральнай грамадскасці. Аўтарам інсцэніроўкі з'яўляецца вядомы драматург Аляксей Дудараў, а рэжысёрам-пастаноўшчыкам і выканаўцай галоўнай ролі — Марына Дударава. Яе асноўныя партнёры ў спектаклі — І.Фільчанкаў, А.Унукава, С.Журавель.

Да пачатку прадстаўлення заставалася трошкі часу, і я зазірнуў "на агеньчык" да дырэктаркі тэатра, якая, на шчасце, аказалася ў сваім кабінеце.

**— Віргінія Антонаўна, жыць цяпер няпроста. А тэатру, мабыць, — удвая. Як вы ўсё ж такі выжываеце?**

— Як бачыце: працуем і жывём. Мы — датацыйны тэатр. Таму даводзіцца вельмі дакладна падлічваць свае (у асноўным, фінансавыя) магчымасці і, зыходзячы з іх, планаваць працу. Як цяпер жывуць тэатры — вядома ўсім. І мы не выключэнне. Бедны тэатр, бедны акцёр, бедная наша інтэлігенцыя. Таму і наша культура, натуральна, перажывае не лепшыя свае часы. Але ад таго, што я некаму буду "плакацца ў камізэльку", распавядаючы пра мізэрныя заробкі, пра адсутнасць сродкаў на новыя пастаноўкі, грошай не паболее. У такой сітуацыі ёсць два магчымыя варыянты паводзінаў: не думаць, а крычаць і не працаваць, альбо думаць, як выйсці з крызісу, у якім знаходзіцца краіна і культура, і сумленна рабіць сваю справу. Мы ідзем другім шляхам і працуем, нягледзячы на ўсе цяжкасці.

Спонсары з камерцыйных структур не вельмі спяшаюцца нам дапамагчы, хаця "Сакрэт Шахразады" мы здолелі паставіць дзякуючы мецэнату, які пажадаў выдаткаваць грошы менавіта на гэты спектакль. Наогул, на маю думку, да мецэнацтва нашы людзі яшчэ не падрыхтаваныя. Магчыма, мы дажывем да той пары, калі ў заможных слаёў насельніцтва з'явіцца патрэба не ў набыцці віл і дарагіх аўтамабіляў, а ў далучэнні да духоўных каштоўнасцяў. Каб наблізіць гэты дзень, у нас кожны вечар узнімаецца заслона...

Падзякаваўшы дырэктарцы, я заняў сваё месца ў невялікай утульнай зале, бо жадаючых паглядзець прэм'еру было відавочна болей за колькасць фатэляў. Для вырашэння гэтай праблемы загадзя былі падрыхтаваны дадатковыя крэслы. Пагасла святло. Успыхнулі сафіты. Загучала музыка, і — дзеянне пачалося. Не хачу і не буду нават спрабаваць пераказаць тое, што адбывалася на сцэне. Адзначу толькі, што спектакль уражвае пластыкай выканаўцаў, музыкай, фарбамі, касцюмамі і... адсутнасцю слоў. Пра што спектакль? Пра Каханне. Пра Мужчыну і Жанчыну. Пра вечны пошук Гармоніі.

Пасля прэм'еры, якая была вельмі цёпла прынята гледачамі, абсалютную большасць якіх складала моладзь, я падышоў да рэжысёра спектакля Марыны Дударавай. Яна ледзь-ледзь дыхала пасля шматлікіх выхадаў "на біс".

**— Марына, як вы самі маглі б вызначыць жанр сваёй пастаноўкі? Мне цяжка гэта зрабіць, бо ў спектаклі прысутнічаюць і элементы балета, і пантамімы, і нават цыркавога мастацтва.**

— Жанр нашага спектакля вельмі, на маю думку, дакладна вызначыў аўтар інсцэніроўкі, Аляксей Дудараў: пластычная паэма пра каханне.

**— Чаму пасля класікі і сучаснай драматургіі раптам — зварот да ўсходняй экзотыкі?**

— Справа ў тым, што два гады таму мы былі ў Каіры на міжнародным фестывалі, і на нас незабыўнае ўражанне зрабілі прыгажосць і мастацтва арабскага Усходу. А пазнаёміўшыся там з мастаком, у якога ёсць серыя карцін, прысвечаных Шахразадзе, мы літаральна "захварэлі" гэтай тэмай. Для таго, каб спектакль меў сапраўдны арабскі "прысмак", мы запрасілі мастака-дэкаратара з Егіпта. Балазе, вопыт супрацоўніцтва з замежнымі майстрамі мы маем.

**— Ці задаволеныя вы рэакцыяй гледачоў і тым, як яны прынялі спектакль?**

— Я вельмі баялася, што шараговаму гледачу будзе складана: мова пластыкі — вельмі складаная для разумення і выказвання, — гледачы павінны быць да яе падрыхтаванымі. Драматычны тэатр наведвае не балетная публіка, якая лепей разумее ўмоўную мову, але тое, што мы ставілі сабе за галоўную мэту — прынесці гледачам задавальненне, — на маю думку, атрымалася. Чаму б не паглядзець прыгожы спектакль, нават калі ён і не зусім "звычайны"?

Я пайшоў у гардэроб, каб адразу пасля спектакля даведацца пра ўражанні некаторых гледачоў.

***Зміцер Тужык і Галіна Будзевіч, студэнты:***

— Спектакль прымушае "ўключаць" уяўленне. Не чакалі, што Унукава валодае не толькі драматычным майстэрствам, але і такой пластыкай. Усё атрымалася вельмі прыгожа, чаго не скажаш пра паводзіны некаторых гледачоў.

***Алена Мікалаеўна Спірыдонава, пенсіянерка і "старая тэатралка":***

— Шчыра кажучы, мы з сяброўкай чакалі ўбачыць звычайны спектакль, няхай сабе і з рознымі эфектамі. Да "такога" мы не былі падрыхтаваны, хаця касцюмы, фарбы, музыка — цудоўныя. Наогул, мы часцей наведваем акадэмічныя тэатры.

***Класны кіраўнік 7-га "Г" з 178-й сярэдняй школы сталіцы (на жаль, яна не назвала свайго імя) са сваімі вучнямі:***

— Я, шчыра кажучы, спачатку некалькі разгубілася, зразумеўшы, што не пачую словаў. Але паглядзела спектакль з задавальненнем. Цудоўная рытміка, афармленне. Вельмі добра выкарыстоўваецца ўся прастора сцэны.

У сваю чаргу, і я ўстрымаюся ад ацэнкі таго, што адбывалася на сцэне. Хай чытач "Культуры", прачытаўшы гэтыя радкі, захоча разгадаць "Сакрэт Шахразады" і скласці пра яго ўласнае меркаванне.

ПАДКІТЫШ

# НОВАЕ КІНАПАКАЛЕННЕ: ХТО Ў РУХУ, ХТО Ў СТАТЫЦЫ

**Ала БАБКОВА**

На жаль, у Беларусі шмат чаго робіцца са спазненнем. У кінематографе маруднасць прабіла моцную брэш паміж пакаленнямі. Амаль дзесяцігоддзе, калі не больш, нябожчык Віктар Тураў хацеў вырошчваць кінематаграфістаў розных прафесій на беларускай глебе. Аднак пачулі яго, калі па сутнасці "грымнуў гром", гэта значыць, калі расійская навучальныя кінаўстановы пачалі дыстанцыравацца ад нацыянальных рэспублік.

У 1989 г. В.Тураў стварыў майстэрню рэжысёраў ігравога кіно ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Паралельна майстэрню рэжысёраў-дакументалістаў арганізаваў і другі прызнаны кінамастак Віктар Дашук. Такім чынам, у 1994 г. з'явілася група з больш як двух дзесяткаў маладых (і сярэдняга ўзросту) выпускнікоў Акадэміі, агульны творчы патэнцыял якіх — калі меркаваць па студэнцкіх работах — быў даволі высокі. Аднак якраз у гэты час у беларускім кіно пачаўся фінансава-эканамічны абвал. Хтосьці з майстэрні В.Турава атрымаў дыплом, абараніўшы курсавую работу, камусьці — адзінкам — пашчасціла атрымаць дыпломную пастаноўку на "Беларусьфільме", хтосьці — таксама няшмат — завяршалі стужкі або на грошы спонсараў, або на ўласныя сродкі. Ёсць і такія, хто "вісіць у паветры" — з надзеяй або страціўшы яе.

Крыху лепш з выпускнікамі В.Дашука. Кіна-тэле-відэадакументалістыка мае попыт, таму "маладняк" можа прытуліцца на студыі "Летапіс" "Беларусьфільма", на "Беларускім відэацэнтры", у рэдакцыях і творчых аб'яднаннях Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі ды і ў прыватных студыях, якіх у нашай сталіцы хапае. Нават "тураўцы" маюць магчымасць здзейсніць сябе ў хроніцы, публіцыстыцы.

Некалькі гадоў на "Беларусьфільме" існуе творчае аб'яднанне "Юнацтва". Яго стварэнне абвясціла курс кіраўніцтва кінастудыі і Міністэрства культуры на падтрымку маладых "ігравікоў". Гэты намер выклікаў у кінематаграфістаў-прафесіяналаў процілеглую рэакцыю: адны з энтузіязмам кінуліся дапамагаць пачаткоўцам, другія абурыліся: маўляў, масцітыя ходзяць без працы, а тут "жаўтаротым" ствараці рэжым найбольшага спрыяння. Дапусцім, не найбольшага, таму што магчымасці "Беларусьфільма" вельмі абмежаваныя. На тры поўнаметражныя стужкі занадта многа прэтэндэнтаў. Гэта па-першае. Па-другое, на кінастудыі склалася нейкая хаатычная сітуацыя, калі нешта намацваецца (у тэмах, жанрах, глядацкай адрасацыі), але стратэгія яшчэ не выпрацавана. Той з маладых, хто нейкім бокам адпавядаў прыблізным праграмным устаноўкам і меў больш-менш гатовыя сцэнарыі, той і "стартаваў" у поўнаметражным кіно. Такіх на сённяшні дзень чацвёра.

Можна гаварыць аб тым, што, хаця і са спазненнем, новае пакаленне пачынае (а ў дакументалістыцы ўжо пачало) пісаць новыя старонкі гісторыі беларускага кінематографа. Сёння пачынаем знаёміць з маладымі творцамі.



**Ірына ВОЛАХ** (нар. у 1963 г.) — рэжысёр ігравога і дакументальнага кіно. Да паступлення ў Акадэмію мастацтваў мела справу з тэорыяй і практыкай будаўніцтва (працавала інжынерам-педагогам пасля заканчэння ў 1985 г. Беларускага політэхнічнага інстытута). Са студэнцкага перыяду яе цікавяць гісторыя беларусаў, нацыянальны фальклор, традыцыі, якія продкі пакінулі нашчадкам. Гэтыя яе творчыя схільнасці ўвасоблены ў студэнцкіх карцінах-кароткаметражках "Шукальнікі скарбаў" (паводле твораў Уладзіслава Галубка і Яна Баршчэўскага, 1992 г.), "Рандэву" (паводле аповесці Уладзіміра Арлова "Рандэву на манеўрах", 1994 г.), дакументальных відэафільмах "Хрэсьбіны", "Шэрае, блакітнае, крыху зялёнага...", "Калядныя цары" (1995 — 1997 гг.). Апошняя яе камандзіроўка са здымачнай групай зноў была накіравана ў глыбінку — у вёску Дубровы Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Там жыве школьны настаўнік, выкладчык іспанскай мовы Мікола Бусел — паліглот, эсэіст, даследчык, адным словам, асоба, якая асацыіруецца ў Ірыны з чалавекам эпохі Рэнесанса. Што тычыцца яе творчай задумы наконт ігравога фільма — гэта відовішчная казка паводле матываў твора Клайва Льюіса "Хронікі Нарніі", — то пакуль яе здзяйсненне праблематычнае. Ірына чакае. Цярплівасць таксама ўваходзіць у прафесію кінематаграфіста.

Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ
Эдуард КАБЯК (фота)

# ВОЙЦЕК, ВОСЕНЬ І ФАСОЛЯ

***Малады чалавек, трыццаці аднаго года, нязменна са скураным доктарскім сакваяжам, закаханы ў тэатр, у сваю прафесію, раннюю восень і... фасолю (ва ўсіх яе праявах). Хоча выглядаць маладзейшым, бо сцвярджае, што ягоны любімы ўзрост 30 гадоў 7 месяцаў і 12 дзён (узрост ягонага любімага персанажа Войцека). Такім чынам, знаёмцеся, украінскі рэжысёр Дзмітрый ЛАЗОРКА. Дарэчы, ён добра вядомы беларускім гледачам па пастаноўцы "Дзень свабоды. Дзень кахання", якая стала лаўрэатам фестывалю "Славянскія тэатральныя сустрэчы".***

**— Дзмітрый, распавядзі трошку пра сябе.**

— Тэатральная адукацыя ў мяне была пераважна практычная. Я працаваў у тэатрах Запарожжа, Санкт-Пецярбурга, вучыўся завочна ў Ленінградскім дзяржаўным інстытуце тэатра, музыкі і кінематаграфіі ў Чарназёмава на рэжысуры, потым кінуў і ў 1990 годзе паступіў у Кіеўскі тэатральны інстытут (клас Э.Мітніцкага) таксама на рэжысуру і скончыў яго ў 1995 годзе. Яшчэ падчас вучобы, пачынаючы з трэцяга курса, я ставіў спектаклі і ў Данецку, і ў Берагоўскім венгерскім драматычным тэатры, і ў тэатры, дзе працаваў Э.Мітніцкі.

**— А як жа тэатр, дзе ты цяпер працуеш — Малады тэатр?**

— Гэтаму тэатру 20 гадоў. Нешчаслівы тэатр, пракляты Богам і людзьмі, у яго вельмі кепская рэпутацыя ў Кіеве. Ягоны ўзлёт быў у першым сезоне, калі ён сапраўды быў вельмі гучным, вядомым, папулярным тэатрам у Кіеве, тэатрам камеды. Добрай камеды. Але мінаў час, адыходзілі рэжысёры, дырэктары, мянялася трупа, і на той час, калі я апынуўся ў гэтым тэатры, ён быў без мастацкага кіраўніка, без пазіцый, без платформ, без ідэі. Трупай было цяжка кіраваць, рэпертуар быў кепскі, стары, "звыклы". У тэатра амаль не было гледачоў, ён быў па-за кантэкстам нават у Кіеве, не кажучы ўжо пра Украіну і тым больш пра Еўропу. Сёлета ў тэатр прыйшоў новы мастацкі кіраўнік Стас Майсееў — вядомы правінцыйны рэжысёр, які прыехаў з Ужгарада. У гэтым сезоне я паставіў "Дзень свабоды. Дзень кахання" і "Войцека". Акрамя таго, у тэатры з'явіліся новы дырэктар і новы загадчык літаратурнай часткі, цудоўны чалавек — Наталля Ермакова, грандыёзная асоба, вядомая на Украіне. Дзякуючы ёй нарадзіліся гэтыя творы, і я пагадзіўся працаваць у гэтым тэатры. Прыклады апошніх гадоў паказвалі, што з'яўленне канцэптуальнай рэжысуры малаверагоднае. Я прапанаваў шмат назваў для рэпертуару, але мы спыніліся на Клаўсе, самым нейтральным для трупы аўтары. Самі ж гэтыя спектаклі ўспрымаліся неадназначна: першы — з непрыхаванай іроніяй, а другі — агрэсіўна. На мастацкіх саветах гучала не толькі грэбаванне рэжысурай і, наогул, гэтай працай, але і нейкая нервовая, агрэсіўная абарона. З акцёрамі, занятымі ў маіх спектаклях, у мяне вельмі кранальныя, чалавечыя і прафесійныя стасункі. Глыбокія, сардэчныя адносіны. І ў будучыні я мяркую з імі працаваць.



Дзмітрый Лазорка (злева) і Кірыл Васілеўскі.

**— А як складваецца твая праца з мастаком?**

— У мяне было шмат мастакоў, я працаваў з вядомымі на Украіне людзьмі — Юрыем Лапывонавым і Вольгай Багатыровай. Цяпер у мяне новы мастак — Уладзімір Карашэўскі, у дадзены момант ён працуе ў Маскве ў Юрыя Любімава ў тэатры на Таганцы. Пошук мастака — гэта пошук партнёра, пошук адпаведнасці чалавека чалавеку. Я супраць статкі, супраць нейкіх канонаў. Не кожны мастак можа паставіць са мной "Войцека", альбо "Дзень свабоды. Дзень кахання", альбо Шэкспіра.

**— А над чым ты цяпер працуеш?**

— Я раблю трыпціх паводле Дастаеўскага. У мяне праз два тыдні прэм'ера ў Цэнтры імя Леся Курбаса ў Кіеве. І гэта прэм'ера — частка трылогіі, "Настасся Піліпаўна" Анджэя Вайды. Гэта перапрацоўка Дастаеўскага. Далей будзе другая частка — "Пакорлівая" і потым дыялогі Аглаі і Настассі Піліпаўны. Гэта цалкам аўтарскія творы, замоўленыя мной Аляксандру Раванцу — нашаму вядомаму паэту-авангардысту, перакладчыку. Ён пераклаў для мяне з польскай Анджэя Вайду, і цяпер мы з ім працуем сумесна над другой і трэцяй часткамі трылогіі.

**— У цябе не ўзнікала жадання паставіць монаспектакль?**

— Не. Для мяне вельмі істотны дуэт, трыо, квартэт і г.д., карацей, поліфанічнае гучанне. Мне цікавыя складаныя формы. Чалавек. Маштаб ягонага канфлікту са светам, з іншым чалавекам, з жанчынай, з прасторай.

**— А калі рэжысёр заўважае адсутнасць унутранага ядра спектакля, ягонага цэласнага, адзінага вобраза?**

— Тады рэжысёр абавязаны адмовіцца. Гэта пытанне этыкі, прафесійнай, чалавечай этыкі. У мяне ў перыяд выпуску спектакля "Войцек" двойчы былі моманты зрыву, поўнага зрыву. Я кідаў усё і пайшоў бы з тэатра, калі б не разуменне, якое пасля і дазволіла мне скончыць працу. Халодны "Войцек" мне быў непатрэбны, а "Войцек" сённяшні — рэфлексуючы, хваравіты, нервовы, кранальны і жывы — мне цікавы. І тое, што людзі, прыехаўшы сюды, пацвердзілі яшчэ раз, што па-сапраўднаму ўражаныя тым, што адбываецца з імі і з героямі п'есы, — гэта для мяне аргумент. Гэта — працяг працы. Хаця ёсць псіхалагічнае сумненне: ці маю я права ўплываць на чалавека настолькі, каб мянялася ягоная пазіцыя, ягонае светаўспрыманне, мяняўся стыль, тэхніка, накірунак ягонай думкі?

**— Дзмітрый, як адбылося тваё знаёмства з "Войцекам"?**

— "Войцека" я прачытаў у 1984 годзе ў Ленінградзе. П'еса мне абсалютна не спадабалася, я ў ёй нічога не зразумеў. А ўжо потым, у Кіеве, я прачытаў яе ў перакладзе Леся Курбаса, зробленым яшчэ ў 30-я гады. І гэты "Войцек" стаў для мяне адкрыццём, уражаннем, шокам.

**— Ці былі праблемы з пошукам галоўнага героя?**

— Пытанняў тут не было: Войцека будзе іграць Валерый Легін. Гэта вельмі вядомая асоба ва ўкраінскім тэатры. Дарэчы, ён даволі працяглы час іграў у Мінску. У яго, як гэта напісана ў Ежы Гратоўскага: "паўза паміж імпульсам і ягонай праявай" вельмі малая. Ён чалавек адкрытага дзеяння, гэта значыць, усе параметры Валерыя Легіна былі для мяне аргументам на карысць таго, што гэта — ягоная роля, што яна ў яго атрымаецца. Дарэчы, у снежні ў Кіеве павінен адбыцца фестываль адной п'есы. Гэтай п'есай будзе "Войцек". Мяркуецца ўдзел каля пятнаццаці "Войцекаў".

**— Ці спрабаваў ты ставіць спектаклі ў іншых жанрах?**

— Летась я выкладаў на акцёрскім курсе ў інстытуце (на венгерскім акцёрскім курсе). Я з імі рабіў "Жаніцьбу Бальзамінава" — гэта атрымалася смешна і весела. Мне здаецца, я ўмею займацца камедыяй і знаходзіць парадоксы не толькі ў змрочным, але і ў смешным. Я ставіў дзіцячыя спектаклі. Вельмі люблю займацца простай, прымітыўнай драматургіяй. Я паставіў "Прыгоды ў лесе" і "Шчаўкунка", атрымаў задавальненне і, спадзяюся, дзеці таксама.

**— Дзмітрый, у цябе не ўзнікала жадання працаваць у адным з заходнееўрапейскіх тэатраў?**

— Так, гэта было б цікава. Хаця не ведаю, ці дапасуецца мая мадэль працы да добра наладжанага, халоднага механізма, якім з'яўляецца еўрапейскі тэатр. Я — чалавек пачуццёвы і непазбежна правакую ў людзях і прафесійныя, і асабістыя знакі камунікацыі. Тэатральны Кіеў папракаюць у тым, што ў яго адна кніжная шафа, што ўсе карыстаюцца адным матэрыялам. А я спрабую адчыніць іншую шафу, мець там сваю шуфлядку.

**— І шмат чаго ў гэтай шуфлядцы?**

— Хапае.

**— А якая ідэальная мадэль "твайго" тэатра?**

— Ідэальная мадэль "майго" тэатра — гэта матэрыяльная незалежнасць, прысутнасць двухтрох калег, узгадаваных мною, цікавых і патрэбных мне для самай складанай справы. Гэта, у прынцыпе, мадэль тэатра Леся Курбаса. Філосаф-акрабат — такі акцёр мне патрэбны. Але шлях да гэтага вельмі доўгі.

**— Што б ты хацеў паставіць да 2000 года?**

— 2000 год... Я не ведаю, якім я буду праз тры гады... Магчыма, яшчэ раз "Войцек". Для мяне гэтая п'еса з'яўляецца сусветнай, дасканалай. Магчыма, гэта будзе "Бура" Шэкспіра, магчыма, "Чайка"... А ў 2000 годзе, магчыма, у мяне яшчэ больш павялічыцца патрэба "выбухнуць" ад такіх п'ес. Магчыма...

## падкіты

***Алена ТРАФІМЕНКА*** (нар. у 1964 г.) — рэжысёр ігравога і дакументальнага кіно. Працу на ТБ яна перапыніла вучобай у Акадэміі мастацтваў, якую Алена скончыла з дыпломам з адзнакай. У 1994 г. па выніках конкурсу ў Парыжы атрымала стыпендыю французскага ўрада і прайшла стажыроўку ў міжнароднай школе "ФЭМІС". Яе студэнцкія работы 1991 — 93 гг. "І яшчэ спяваюць птушкі...", "Пекла — гэта..." паводле Сартра, "Прысуд" па матывах твора Кафкі характарызуюць яе як паслядоўніцу інтэлектуальнага кіно. Форма прытчы — яе спосаб гутаркі з гледачом.

У 1995 г. зноў вярнулася на БТ, падрыхтавала цыкл аўтарскіх праграм "Чалавек-Скрыня" — аб праблемах свабоды.

У час, калі пішуцца гэтыя радкі, малады рэжысёр працягвае праходзіць агонь, ваду і медныя трубы кінематаграфічнай прафесіі. 1997 г. — год яе дэбюта ў поўнаметражным кіно. Здымае яна музычна-фантастычную казку пад умоўнай назвай "Вецер, які кліча". Гэта гісторыя падлетка-інваліда, які трапляе ў сучаснае "Зазеркалье", гэта значыць, у віртуальную рэальнасць. Пройдзе крыху часу, адбудзецца прэм'ера, і А.Трафіменка будзе слухаць меркаванні пра сваё "кінадзіця", лавіць позіркі тых, каму фільм спадабаўся і каму не спадабаўся, будзе, напэўна, пагаджацца і спрачацца. Гэта і ёсць свята і будні кінематаграфіста.



***Ігар БЕЛАКАПЫТАЎ*** (нар. у 1963 г.) — аператар. Скончыў Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі (майстэрню В.Юсава). Здымаў курсавыя, дыпломныя работы "акадэмістаў", працаваў на кінастудыі імя М.Горкага. У якасці карэспандэнта-аператара тэлекампаніі НТВ у 1995 — 1996 гг. здымаў баявыя дзеянні ў Чачні. За плячыма маладога "камермэна" дзве поўнаметражныя стужкі. "Шэльму" ён здымаў у кампаніі рэжысёраў Алега Ганчаронка і Ігара Чацверыкова. Толькі што Вольга Марчанкова скончыла псіхалагічны дэтэктыў "Забіць прытворшчыка". Гэта яе сумесны з Ігарам рэжысёрска-аператарскі дуэт. Пры тым — другі раз. Да гэтага яны здымалі кароткаметражку паводле апавядання Аляксандра Купрына "Выпадак з практыкі". Ці адбудзецца іх далейшая творчая садружнасць? Гэта залежыць не толькі ад абодвух.



**Вядучая рубрыкі Жанна ВАСАНСКАЯ**

№ 2 17 — 23 студзеня 1998.

ТРОХІ ПРА ВЕЧНАЕ




# Сяргей ДАЎЛАТАЎ: "БОБА, ПАЕХАЛІ ДА БРОДСКАГА"

Мяне даўно прасілі напісаць успаміны пра Сяргея Даўлатава. Неяк усё не атрымоўвалася. Мяне спыняў якісьці тормаз: Даўлатаў пасля смерці, як гэта часцяком здараецца з таленавітымі і неардынарнымі людзьмі, зрабіўся вельмі папулярны, і мне, ягонаму не вельмі блізкаму сябруку юнацкіх гадоў, няёмка было ставіць сябе ў адзін шэраг з такімі гучнымі мемуарыстамі, як Іосіф Бродскі, Леў Лосеў, Андрэй Ар'еў, якія непараўнальна бліжэй ведалі Сяргея і па Ленінградзе, і па эміграцыі.

Тым не менш я ўсё ж наважыўся і вырашыў гэта зрабіць. Бо памяць, якая старэе з кожным годам, чамусьці ўсё часцей і часцей вяртаецца да тых, хто быў калісьці побач з табой і хто раней за цябе выправіўся на лодцы Харона ў царства Аіда...

У маім жыцці было нямала розных сустрэч: адны запомніліся дэталёва, нібыта ўсё адбывалася ўчора; іншыя зніклі ў бэзавым тумане, пакінуўшы пасля сябе няпэўныя абрысы; трэція — нібыта адбываліся не з табой, а з нейкім таямнічым двайніком, на якога ты пазіраў з боку...

Сяргей Даўлатаў — з першага шэрага, хаця як сталага пісьменніка і журналіста я яго практычна не ведаў. Проста таму, што тады ён яшчэ ім не зрабіўся.

Безумоўна, на пачатку 60-х ніхто не мог меркаваць, што гэты, "свой у дошку", волат з "фізічным лішкам", прасцей кажучы, — Сяргей, Сяржук, Серж, Даўлат — стане тым Даўлатавым, якога сёння чытаюць літаральна ўсе, як чытаюць Чэхава, Мапасана, Твена, О'Генры, Купрына.

Таму дзённікавых і іншых нататак я не рабіў; некалькі нешматслоўных лістоў, напісаных мне Сяргеем яшчэ задоўга да эміграцыі, некуды зніклі. Магчыма, яны дзесьці глыбока схаваліся ў маіх архівах альбо проста згубіліся падчас кватэрных пераездаў...

... Такім чынам, канец зімы 60-га альбо пачатак 61-га. Натуральна, Ленінград. Падзеі разгортваліся ў піўным бары "Тэхас" — так мы, студэнты, называлі ўтульны куток, што месціўся на Неўскім паміж Казанскім саборам і Гасціным дваром.

Наогул, у тыя часы ў Піцеры было некалькі папулярных піўных "установаў", што карысталіся асаблівай прыхільнасцю сярод моладзі: акрамя "Тэхаса" — бар на вуліцы Маякоўскага, на Уладзімірскай, на Стара-Неўскім праспекце і — горшыя — на Васілеўскім востраве і на вуліцы Някрасава... Былі яшчэ карчомкі, шашлычныя, чабурэчныя, пельменныя, але "Тэхас" быў самым прыцягальным месцам, своеасаблівым дыскусійным клубам, дзе мы маглі, натуральна, згодна з грашовымі магчымасцямі, сустрэцца і, павольна пацягваючы "Жыгулёўскае" альбо "Рыжскае", "Мартаўскае" альбо "Портэр", "Падвойнае залатое" альбо "Маскоўскае", пагаманіць і паспрачацца пра Дзюка Элінгтона і Хэмінгуэя, пра колеравую музыку Скрабіна і напаўзабытыя трафейныя фільмы, пра Хлебнікава, Севяраніна, Бурлюка і "Дыксіленд", які тады ўваходзіў у моду, пра Чэ Гевару і Гагарына, пра гастролі Стравінскага ў СССР, пра джаз, ад якога ў Хрушчова "ўзнікае боль у страўніку"...

Тут, у бары, мы пісалі свае курсавыя работы, а пазней і дыпломы: нас, трывалых наведнікаў, ведалі вартаўнікі і ў "базарныя" дні заўсёды пускалі па-за чаргой...

У той вечар мы сядзелі за столікам утраіх — я і мае сакурснікі па гістарычным факультэце універсітэта Павел Канстанцінаў (цяпер ён жыве ў Ніжнім Ноўгарадзе) і Уладзімір Драмлюга, будучы дысідэнт, удзельнік вядомай "сямёркі", што выйшла ў жніўні 1968 года на Красную плошчу, пратэстуючы супраць уваходу савецкіх войскаў у Чэхаславакію (потым у ЗША ён стаў буйным домаўладальнікам. Аднак у студэнцкія гады ён быў надзвычайным прайдзісветам).

... Пачалі, як звычайна, з чатырох бутэлек "на рыла", з чорных салёных сухарыкаў і сушак.

І тут у дзверы ўваліўся стракаты натоўп маладых людзей, сярод якіх быў і наш агульны прыяцель Юра Мачанаў (пазней ён стаў буйным навукоўцам-археолагам у Якуцкай Акадэміі навук). Убачыўшы нас, Юрый шырока заўсміхаўся: "Пасуньце сталы — мы зараз распранемся і — да вас!" Пазнаёміліся. Сяргей Даўлатаў, Эля Баскін, Міша Захараў, Гага Смірноў...

Сяргей Даўлатаў і Юрый Мачанаў вылучаліся сярод усіх перадусім, знешнасцю: Сяргей быў высачэзнага росту, мажны, вузкалобы, каларытны шатэн, падобны да кінаакцёра Амара Шэрыфа, "з трошку фальшывым неапалітанскім адценнем" і чорнымі вусамі; Юрый, старэйшы — з моднай у тыя часы "фідэлькастраўскай" барадой, вельмі імпазантны — карацей, чалавек з пачуццём уласнай годнасці: улетку ён ужо абараніў універсітэцкі дыплом.

Даўлатаў аказаўся нашым калегам па універсітэце — ён вучыўся на філфаку.

**Ад Сяргея Даўлатава: "ЛДУ імя Жданава" — гучыць не горш за "універсітэт імя Аль Капоне".**

Сядзелі доўга, да самага закрыцця. Пілі піва. Нехта бегаў у Елісееўскі гастраном за "грамадскім партвейнам", гэтая "сумесь" зрабіла нас вясёлымі да вар'яцтва, лёгка развязваючы языкі, і мы, перапыняючы адзін аднаго, размаўлялі пра ўсё на свеце. Хаця, мушу прызнацца, гэтая працяглая вечарына скончылася дадатковым адкаркоўваннем бутэлек з "Агдамам" пад бутэрброды з кабачковай ікрой каля Эрмітажа, пад магутнымі скульптурнымі постацямі Атлантаў разца Церабянёва...

Тут і высветлілася, што мы з Сяргеем адначасова, паўгода таму, паступалі ва універсітэт, і ў жніўні ўступныя іспыты здавалі таксама адначасова! Здараецца ж такое! Праўда, Даўлатаў быў яшчэ выдатным спартсменам-баксёрам (паводле ягоных словаў, яму дапамагло гэта пры паступленні). Мы ж усе былі толькі выдатнымі балельшчыкамі...

**Ад Сяргея Даўлатава: "Сярод маіх знаёмых пераважалі неардынарныя асобы. Галоўным чынам, дзёрзкія пісьменнікі, мяцежныя мастакі і рэвалюцыйныя музыканты... Мы гаварылі пра свабоду творчасці, пра права на інфармацыю, пра павагу да чалавечай годнасці. Намі валодаў скептыцызм у стаўленні да дзяржавы".**

Карацей, гэта быў Ленінград пачатку 60-х гадоў, калі хрушчоўская "адліга" падыходзіла да фіналу. Гэта быў Ленінград, дзе, паводле меркавання Даўлатава, "высакародства было такім жа звычайным, як і хваравіты колер твару, пазыкі і адвечная самаіронія... Спалучэнне непаўнацэннасці і перавагі робіць яго вельмі з'едлівым панам".

... З тае пары нашы сустрэчы з Сяргеем зрабіліся больш-менш рэгулярнымі, хаця мы вельмі рэдка дамаўляліся загадзя.

"Боба, паехалі да Восі Бродскага", — неяк сказаў мне Сяргей. — "А хто гэта?" — "Ды адзін разумны піїт гебрайскай нацыянальнасці. Вельмі яго паважаю. Жыве тут, недалёка, на Лігаўцы, у тым самым доме Мурузі, дзе калісьці жылі Мережкоўскі і Гіпіус".

Гэты дом я ведаў. Але да Бродскага так і не давялося трапіць. Ні тады, ні пазней. А калі даведаўся, што ён з'яўляецца аўтарам тэксту песні "Пілігрымы", якая карысталася вялікім поспехам у студэнтаў, вельмі шкадаваў аб гэтым. Не трапіў я і на судовы працэс над "злосным дармаедам" Бродскім, які адбываўся ў лютым 64-га ў Дзяржынскім раённым судзе (Даўлатаў тады служыў у войску). Бродскага ў той час мала хто ведаў, а "дармаедаў" было шмат...

А Сяргей з ім сустракаўся. Пазнаёміўся, здаецца, на год раней за нашу сустрэчу. "Ён жыве не ў савецкім Ленінградзе, а кляштары ўласнага духу, — неяк сказаў Даўлатаў. — Не павярыш, але Вося мяркуе, што Дзяржынскі дасюль жывы, але на пенсіі, а Камінтэрн — гэта назва музычнага ансамбля. А калі ўбачыў на сваім доме партрэт члена Палітбюро Мжванадзе, папытаўся здзіўлена: "Сяржук, а гэта хто? Няўжо Уільям Блэйк?"

**Ад Сяргея Даўлатава: "У нашай краіне поўная бяздарнасць — нерэнтабельная. Талент — насцярожвае. Геніяльнасць — выклікае жах. Найбольш выгодная валюта — сярэднія літаратурныя здольнасці".**

На радзіме Іосіф Бродскі, дарэчы, як і пазней Даўлатаў, спачатку насцярожваў, а потым выклікаў жах. Але што да Сяргея, дык той тады нават "не насцярожваў". Я ведаў, што ён трошкі папісвае, але ставіўся да гэтага паблажліва: усе тады нешта пісалі, стваралі — хто вершы, хто апавяданні, хто філасофскія трактаты, хто забаўляўся песнямі, унутрана спадзеючыся, што гэта і ёсць эстэтыка будучыні...

**Ад Сяргея Даўлатава: "Самае вялікае няшчасце майго жыцця — смерць Ганны Карэнінай".** З вершаў да студэнцкага "капусніка" ЛДУ (здаецца, да 8 сакавіка 1962 года):

*Огней так много золотых*
*На улицах Саратова,*
*Парней немало холостых,*
*А я люблю Довлатова...*

Дзяўчаты з філфака называлі Сяргея "нашым арабам" і нямала сапсавалі яму крыві на неспакойных франтах кахання.

**Пра Пушкіна: "Пушкін — Бог і Д'ябал, высока лётаў, але зрабіўся ахвярай звычайнага зямнога пачуцця".** Такой "ахвярай" стаў і сам Сяргей, які пакахаў жанчыну і з гэтай прычыны фактычна кінуў ЛДУ. Аднак, праз 15 гадоў, іншая жанчына, праўда, далёка не Ганна Карэніна, з'явілася ініцыятарам ад'езду Сяргея ў эміграцыю...

**Ад Сяргея Даўлатава: "Даўгі — гэта адзінае, што звязвае цябе з людзьмі".**

Колькі я ведаў Сяргея, ён заўсёды быў некаму вінен, хаця часта, аддаючы даўгі, частаваў гэтага "добрага ліхвяра" на суму, што значна перавышала доўг. Памятаю, аднойчы Сяргей заклаў у ламбард нават сваё зімовае паліто, каб своечасова разлічыцца з адным фарцоўшчыкам...

**Ад Сяргея Даўлатава: "У савецкіх газетах толькі абдрукоўкі праўдзівыя: "Гавнокомандующий (замест — главнокомандующий), "большевистская каторга" (замест — когорта), "коммунисты осуждают (замест — обсуждают) решения партии".**

Неяк ён вымавіў: "Дастаеўскі добры таму, што іншы раз смешна піша!" На маё здзіўленае пытанне адказаў, хітравата ўсміхаючыся: "А ты пачытай, пачытай Фёдара Міхайлавіча. Вось —"побач знаходзіўся круглы стол авальнай формы". Геніяльна, ці не так?" Я паспрабаваў запярэчыць, што, магчыма, гэта проста выдавецкая абдрукоўка... "У тым і справа, што не. Ягоны рэдактар менавіта гэта заўважыў яшчэ ў рукапісе і сказаў Дастаеўскаму, што вы, маўляў, памыліліся і трэба паправіць. На што Фёдар Міхайлавіч, паразважаўшы, адказаў: "Пакіньце так..."

Дадам яшчэ да гэтай тэмы. Сяргей любіў распавядаць, як ленінградскі пісьменнік Барыс Раеўскі апублікаваў, здаецца, у "Аўроры", апавяданне. У ім быў такі цудоўны сказ: "Светлыя кучары дзяўчыны выбіваліся з-пад яе карункавага фартушка...". А чым не геніяльны паэтычны радок Алега Шасцінскага: "Она нахмурила свой узенький лобок..."?

Назаўсёды засталіся ў памяці вусныя "байкі" Сяргея пра сваіх армяна-гебрайскіх продкаў. Гэтыя аповеды, праўда, кожны раз за куфлем піва набывалі ўсё новыя і новыя каларытныя адценні. Мы былі першымі слухачамі некаторых з іх, потым яны станавіліся вядомымі філолагам, гісторыкам і іншым наведнікам піўных і шашлычных установаў...

Пасля зімовай сесіі 63-га года, у студзені, Сяргея адлічылі з універсітэта. Даведаўся я пра гэта ў тым жа "Тэхасе", куды ён прыйшоў з прыяцелямі Жэнем Рабавым, Чуйковым і яшчэ з кімсьці. "Вось, паглядзі, — весела кінуў мне Сяргей свежы нумар шматтыражкі "Ленинградский университет". Фельетон пад назвай "Восем, дзевяць... Аўт!" (намёк на захапленне боксам) суправаджаўся зласлівай карыкатурай: малпападобны чалавек трымае за талію "двойку", якая мае аблічча непрыстойнай дзеўкі...

**Ад Сяргея Даўлатава: "Тры гады ва універсітэце** (на самай справе — два з паловай. — **Б.К.**) **слаба паўплывалі на маю асобу. Гэта быў працяг сярэдняй школы. Хіба што на больш высокім узроўні. Плюс паненкі, спорт і нейкі мінімум франдзёрства. Я не ведаў, што менавіта тады дасягнуў вяршыні дабрабыту. Далей усё пайшло горш. Нешчаслівае каханне, даўгі, шлюб. І як заканчэнне ўсяго гэтага — лагерная ахова..."**

Да "лагернай аховы" заставалася яшчэ два месяцы...

Такім чынам, Сяргея выключылі за непаспяховасць. Сапраўды, ён тры ці чатыры разы спрабаваў здаць нямецкую мову, але так і не здолеў: "Мовы я не ведаў зусім. Усе нямецкія словы гучалі для мяне аднолькава. Хіба што, мабыць, акрамя імёнаў правадыроў сусветнага пралетарыяту".

Аднак, гэта не зусім праўда. Шчыра кажучы, Сяргея маглі аднавіць згодна з хадайніцтвам таго ж спартыўнага таварыства "Буравеснік", дзе Даўлатаў па-ранейшаму выдатна баксіраваў (студэнцкі спорт у тыя гады быў у пашане амаль на дзяржаўным узроўні), ды і прафкам факультэта быў не супраць "дапамагчы" Сяргею. Але, на маю думку, справа была ў іншым — у тым самым "нешчаслівым каханні", што зусім выбівала гэтага гіганта з нармальнай жыццёвай плыні. "Я прапускаў адну лекцыю за адной, такім чынам, лепей за ўсё мне запомніліся універсітэцкія калідоры"...


*Сяргей Даўлатаў і Іосіф Бродскі.*

Пасля выключэння Даўлатаву давялося пакінуць інтэрнат на Сяманскай і наняць маленькі пакойчык далёка ад цэнтра. Я быў там толькі аднойчы. Мне запомнілася толькі нейкая нязграбная, вялізная будоўля і побач з домам — забруджаная пустка. Тады ж Сяргей падарыў мне фінскія шкарпэткі...

Але жыць трэба, і неўзабаве Сяргей знайшоў працу. Ён чысціў фасады, гэта значыць, прыбіраў нецэнзурныя словы, малюнкі і фрывольныя выказванні з гістарычных помнікаў архітэктуры, а таксама бессмяротныя сказы накшталт "Тут быў Коля", "Оля + Пеця = каханне" альбо больш разумныя — "Архитектор Растрелян" (на будынку Эрмітажа).

І яшчэ больш запомніўся дзень 1 красавіка — свята, так бы мовіць, гумару. Менавіта ў гэты дзень Сяргей атрымаў павестку з ваенкамата. У не вельмі добрым настроі мы адзначылі гэтую падзею ў рэстаране "Чайка". Былі Павел Кан-

станцінаў, Слава Кананенка (гісторык, жыве ў Табольску), Барыс Вахцін (ён плаціў за ўсіх), Слава Маслаў... Пілі мадэру...

**Ад Сяргея Даўлатава: "Кажуць (у ЗША), калі выпіць савецкую мадэру і памачыцца на шакала, дык шакал памірае...".** Дзякаваць Богу, нам не давялося гэта праверыць, бо шакала ў той момант побач не было...

Сяргей зрабіўся наглядальнікам у выпраўленчай калоніі асобага рэжыму (чытайце — "Зону"), што месцілася недалёка ад Ленінграда.

А ў снежні гэтага ж, 1963 года ён атрымаў адпачынак на тыдзень і адразу ж прыехаў у Піцер. У маім інтэрнаце на Мытнінскай набярэжнай я знайшоў аркушык паперы: "Боба! Прыехаў у адпачынак на два дні. Быў з партвейнам. Не застаў. Выпіў сам... Спыніўся ў цёткі. Дзе — ведаеш. Даўлат".

Але дзе жыве цётка — я не ведаў...

А самая апошняя сустрэча з Сяргеем адбылася напрыканцы 64-га, калі ён дэмабілізаваўся. Ён знайшоў мяне з Пашкам Канстанцінавым у тым жа інтэрнаце на Мытні. Прыйшоў з кампаніяй сваіх старых сяброў. Я запомніў старога знаёмага Жэню Рабава (па мянушцы "магніевая ўспышка", бо ён не расставаўся з фотаапаратам), вясёлага і добразычлівага Валодзю Губіна...

Сяргей змяніўся, стаў нейкім засяроджаным, дакладней, нібыта знясіленым штодзённым мітуслівым жыццём; распавядаў, што прывёз з зоны рукапіс пра тое, што там бачыў і перажыў. Сказаў, што хацеў бы яго апублікаваць. Праўда, нам рукапіс не чытаў.

... Праз шмат гадоў Даўлатаў напіша: "Я сустрэўся з былымі прыяцелямі. Размаўляць было цяжка. Узнік нейкі псіхалагічны бар'ер. Сябры скончалі універсітэт.. Падхопленыя цёплым ветрам пачатку 60-х, яны інтэлектуальна расквітнелі. А я безнадзейна адстаў. Я наведаў студэнцкія вечарынкі. Распавядаў жудасныя лагерныя гісторыі. Мяне слухалі далікатна і вярталіся да актуальных філасофскіх тэм: Пруст, Бероўз, Набокаў... Да гэтага часу мая жонка пакахала знакамітага сталічнага літаратара..."

Неўзабаве я паехаў у Маскву, каб скончыць сваю дыпломную работу, прысвечаную футурысту Маякоўскаму. Вярнуўся ўжо ўвесну 65-га. Даўлатава не сустрэў; карусель жыцця круцілася ўсё больш хутка і бязглузда, прымушаючы нас, выпускнікоў, усё глыбей задумвацца над пытаннем: што ж чакае нас далей?

Пасля абароны дыпломаў мы раз'ехаліся — хто куды. Я трапіў у Мінск. З верасня дасылаў тэлеграму Даўлатаву ў Ленінград на Галоўпаштамт, дзе Сяргей звычайна атрымліваў карэспандэнцыю. Я павіншаваў яго з днём нараджэння. На ўсялякі выпадак пазначыў свой хатні адрас, хаця адказу, шчыра кажучы, не чакаў. Але адказ прыйшоў — у выглядзе караценькага ліста! Уяўляю, якая туга валодала тады Сяргеем, калі ён — вораг эпісталярнага жанру — напісаў мне!

Пісаў, памятаю, пра тое, што працуе ў заводскай шматтыражцы, што піша "добрыя апавяданні", якія ў выдавецтвах і рэдакцыях ухваляюць, але... не друкуюць. Я на гэта аптымістычна адказаў, што, маўляў, не трэба сумаваць, Хрыста ж таксама не друкавалі, галоўнае — гэта здароўе і вера ў свае сілы... і яшчэ штосьці падобнае.

Шмат пазней Даўлатаў выкарыстаў гэты філасофскі тэзіс пра Хрыста ў адным са сваіх эсэ, праўда, некалькі перарабіўшы яго...

**ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ**

Сяргей Даўлатаў, гэты вялікі мастак "абсурду жыцця", эмігрыраваў у ЗША ў 1978 годзе. Выдаў там каля 15 кніг, друкаваўся ў прэстыжным часопісе "Нью-Ёркер", дзе да яго з рускіх друкаваўся толькі Набокаў, паспяхова працаваў на радыё "Свабода".

Творчасць Даўлатава высока ацэньвалі Курт Вонегут і Віктар Някрасаў, Уладзімір Вайновіч і Георгій Уладзімаў, Ірвін Хаў і Іосіф Бродскі, Джозеф Хелер і Аляксандр Салжаніцын.

Ён памёр у Брукліне спякотнай раніцай 24 жніўня 1990 года. На вуліцы з ім адбыўся прыпадак, кроў палілася з горла, і "хуткая" ўжо не паспела яму дапамагчы. Праз дзесяць дзён Сяргей збіраўся адзначыць сваё 49-годдзе...

**Барыс КРЭПАК**
**Фота Ніны АЛОВЕРТ**
**Малюнкі Аляксандра ФЛАРЭНСКАГА**

















## Зоркі, што ўпалі ў нябёсы

# СОНЦАМ ПОЎНІЛАСЯ ЯГО ГАЛАВА...

Вось ужо сем гадоў яго няма з намі, але засталіся фільмы, што прымушаюць гледачоў аднычасова абурацца, смяяцца і плакаць, засталіся запісы на радыё і ТБ, кружэлкі.

Імя Іва Мантана ўвасабляе цэлую эпоху ў кіно. Ён пачаў здымацца ў 1944 годзе, пераважна ў французскіх стужках. Дэбютаваў у фільме "Зорка, якая не свеціць" у эпізадычнай ролі. Успаміны Мантана пра сваё жыццё і творчыя пошукі пад назвай "Сонцам поўніцца галава" былі выдадзены ў Савецкім Саюзе накладам у 75 тысяч асобнікаў. Ягоныя канцэрты слухалі дзесяткі тысяч, а фільм "Спявае Іў Мантан" (1957 г., рэжысёры С.Юткевіч і М.Слуцкі) глядзелі мільёны людзей.

Першымі фільмамі, якія ўбачылі нашы гледачы, сталі "Ідал" рэжысёра А.Эсвей (1948 г.) і "Плата за страх" рэжысёра А.Ж.Клузо (1953 г.). У апошнім фільме акцёр сыграў шафёра, які гатовы дорага заплаціць за тое, каб вярнуцца на радзіму. У фільме "Вялікі блакітны шлях" рэжысёра Дж.Пантэкорва (1957 г.) ён — італьянскі рыбак, які ўзгадаваўся і правёў жыццё ля мора. У стужцы "Героі стаміліся" Мантан іграў лётчыка (рэжысёр Іў Чампі, 1955 г.). У сваіх ролях ён вельмі праўдзівы. Шафёр атрымлівае плату за страх, лётчык закінуты на край свету беспрацоўем, голадам, рыбак вымушаны заняцца браканьерствам. Ва ўсіх гэтых людзей ёсць схільнасць да рызыкі, прага да жыцця, яны давяраюць толькі сабе.

Іў Мантан у сваіх успамінах распавядае, як ён, змяніўшы працу малатабойца на не менш цяжкую працу докера, разважаў пра жыццё, пра мастацтва: "І вось прыходзіць чалавек, ён спявае для нас, і ў ягоных песнях распавядаецца пра тое, што адной маленечкай пылінкі надзеі дастаткова, каб прымусіць зазіхацець усё навокал... Хай спявак пайшоў — песні ягоныя застаюцца, іх усе паўтараюць, насвістваюць, напяваюць, ужо не адчуваючы сябе такімі разгубленымі".

Сапраўднае імя артыста — Іва Ліві. Ён нарадзіўся 13 кастрычніка 1921 года ў Італіі, у вёсцы Мансумана Альта ў сям'і італьянскіх сялян. Іва было чатыры гады, калі ягоная сям'я прыехала ў Марсель. Будучы акцёр быў трэцім, малодшым дзіцем, пасля брата Жульена і сястры Лідзіі. Маці і бацька працавалі, а дзеці былі ўвесь час адны. Пра цацкі яны маглі толькі марыць, жылі напаўгалоднымі ў маленькіх дамках на ўскрайку горада. Школа, паводле ўспамінаў артыста, нагадвала выпраўленчы дом, дзе вучні былі рабамі розных школьных правілаў і раскладу.

Бацька Іва, які адкрыў разам з трыма рабочымі маленькую майстэрню па вырабе шчотак для мыцця падлогі, праз год абанкруціўся. Бацькі зноў пачалі працаваць на найме, сястра паступіла працаваць у цырульню, брат у 11 гадоў стаў чорнарабочым на цукровым заводзе, а Іва ўладкаваўся на завод макаронных вырабаў.

У 13 гадоў, пасварыўшыся з гаспадаром, ён пайшоў з фабрыкі і стаў беспрацоўным. Потым быў памочнікам у цырульні ў сястры. Паступленне Іва на курсы цырульнікаў, уладкаванне на працу ў цырульню першага разраду — усё гэта адбылося згодна з рашэннем сям'і. Тады ж Іва напаткала і першае, нешчаслівае, каханне да дзяўчыны Бруны, какетлівай і вясёлай, якая працавала ў буфеце, што знаходзіўся па другі бок шасэ ад цырульні.


Іў Мантан і Мэрылін Манро.

На пачатку другой сусветнай вайны Іва было семнаццаць гадоў. Ён працягваў працаваць жаночым майстрам у цырульні "Ivonne et Fernand". У гэты змрочны перыяд яму асабліва хацелася гармоніі, шчасця.

Першы артыстычны дэбют Мантана адбыўся ў зале "Valonne de Tuve", у квартале Сент-Антуан. Канцэрт, што праходзіў у маленькай зале, дапамог наладзіць знаёмы. Тады і быў абраны псеўданім для афішы — Іў Мантан.

— Ivo, monta! — Іва, ідзі наверх! — крычала ягоная маці па-італьянску, калі клікала абедаць.

Першыя выступленні мелі поспех, але — "перад добразычлівай і паблажлівай аўдыторыяй". Затым былі выступленні ў сціплых бістро, у больш прэстыжнай канцэртнай зале "Алькасар". Вайна абрынулася на ягоную кар'еру, што ледзь-ледзь пачалася, знішчыўшы адразу усе мары. Іў зрабіўся малатабойцам на "Міжземнаморскіх верфях". Потым — беспрацоўе, нарэшце, праца металістам, докерам.

Іва Ліві зразумеў, што эстрада — ягонае сапраўднае прызванне. Знайшоўшы сур'ёзнага імпрэсарыо, ён выступаў у рэвю "Вар'яцкі вечар" пад ранейшым псеўданімам Іў Мантан і аб'ездзіў усю Францыю. Рэвю мела вялікі поспех, артыст атрымліваў неблагія ганарары і ўхваленні прэсы.

Але вайна ўсё больш нагадвала пра сябе. У акупаванай Францыі ўсё больш частымі зрабіліся аблавы з адпраўкай у Германію. Іў пакідае Марсель і ў лютым 1944 года прыязджае ў Парыж. Знаёмы імпрэсарыо Адзіфрэд арганізаваў яму канцэрт. Пасля некалькі ангажэментаў у Балье, Фалі-Бельвіль, Бабіно былі два тыдні выступленняў у тэатры Мулен-Руж, дзе Мантан пазнаёміўся з Эдзіт Піяф. Яна прадказала яму вялікую ўдачу на сцэне і была рада, што яны будуць выступаць у адной праграме. Запамінальным быў песенны фестываль у тэатры "Etoile" у 1945 годзе, дзе Мантан таксама выступаў разам з Эдзіт, чые песні былі "гвяздом" праграмы. Гэтая спявачка стала першай вялікай страсцю Мантана...

Неўзабаве артысту прапанавалі ролю ў фільме "Дзверы ў ноч" рэжысёраў Марселя Карнэ і Жака Прэвера. Фільм праваліўся. Магчыма таму, што Мантан, якому было тады 24 гады, павінен быў іграць 44-гадовага чалавека з багатым жыццёвым вопытам.

Але праца — лепшы сродак ад паніласці і няўдач. Поспех прыйшоў пасля здымак фільма "Ідал" і кароткай карціны "Згубленыя ўспаміны". Былі запісы песень, радыёкампазіцыя рамана "Гронкі гневу". Зноў вярнуўшыся на сцэну, на гэты раз на прыватную, Мантан спяваў для актрысы Рыты Хейуорт і Алі-Хана, якія толькі што адсвяткавалі вяселле, наладзіўшы свята ў сваім замку.

У 1949 годзе ў Іва Мантана былі шматлікія выступленні ў зале "Etoile" у Парыжы. У гэты шчаслівы час у гарадку Сент-Поль-дэ-Ванс ён сустрэў актрысу Сімону Сіньёрэ, жонку рэжысёра Іва Алегрэ. Гэта быў "удар маланкі" — рамантычнае каханне з першага погляду. Ёй было 28 гадоў, яму — 27.

Сімона была шчырая з мужам: калі Мантан увайшоў у яе жыццё, яна ўсё яму расказала. Але, вярнуўшыся ў Парыж, яна не наважылася адразу кінуць таго, кага кахала раней, хто быў бацькам яе дачкі. У снежні 1951 года ў мэрыі Сен-Поль-дэ-Ванс Іў Мантан пабраўся шлюбам з Сімонай Сіньёрэ. У рэстаранчыку "Залатая галубка" быў накрыты стол, а жывыя галубы лёталі над іхнімі галовамі...

Іў і Сімона набылі невялікі дом за горадам, прыдатны для адпачынку і прыёму гасцей, а таксама аўтамабіль "Пакард" — вялікую, камфартабельную машыну, у якой ездзілі на гастролі. У 1954 годзе ў Іва Мантана і Сімоны Сіньёрэ быў сумесны дэбют на тэатральнай сцэне ў п'есе Артура Мілера "Салемскія вядзьмаркі".

Нічога, здавалася, не магло пагражаць сямейнаму шчасцю Іва і Сімоны... Пакуль у красавіку 1960 года ў Лос-Анжэлесе не пачаў здымацца фільм "Мільярдэр" рэжысёра Д.К'юкара. Каралева Галівуда Мэрылін Манро павінна была здымацца ў фільме разам з Мантанам, які нагадваў ёй другога мужа Джо Дзі Маджа. Мэрылін і яе трэці муж Артур Мілер і Мантан з жонкай былі суседзямі на Беверлі Хілз. Але Мілер паехаў працаваць у Ірландыю, а Сімона — у Францыю на здымкі. Партнёры па "Мільярдэры" (другая назва фільма — "Давайце зоймемся каханнем") засталіся самнасам. Паводле сцэнарыя герой Іва Мантана закахаўся ў прыгожую актрысу зусім не брадвейскага маштабу і выдаваў сябе за акцёра. Мэрылін і Іў адчувалі моцную страсць адзін да аднаго. Захапіўшыся мужчынай, Мэрылін заўсёды кахала яго да страты прытомнасці, таму калі напрыканцы здымак фільма Мантан сказаў ёй, што не пакіне Сімону, яна зарыдала. Папаўзлі плёткі. На ўсе пытанні артыст адказваў, што "Мэрылін усё яшчэ шчырае дзіця. Я лічыў яе больш вопытнай, такой, як некаторыя дамы, якіх я ведаў. Калі б яна была больш вопытнай, нічога гэтага б не адбылося".

Артуру Мілеру пагалоскі не спадабаліся. Мэрылін вярнулася ў Нью-Ёрк і ў лістападзе абвясціла, што разыходзіцца з мужам. Скасаванне шлюбу адбылося праз два месяцы ў Мексіцы. Праз некаторы час фірма "ХХ стагоддзе — Фокс" сутыкнулася з сур'ёзным нервовым захворваннем актрысы і звольніла яе...

Акрамя каханых жанчын у Мантана былі любімыя партнёркі ў кіно, з якімі звязаныя лепшыя старонкі французскага кінематографа. Гэта Ромі Шнайдэр і Катрын Дэнёў. Разам з Мантанам Р.Шнайдэр знялася ў двух фільмах: "Сезар і Разалі" (рэжысёр К.Сатэ, 1972 г.) і "Свята жанчыны" (рэжысёр К.Коста-Гаўрас, 1979 г.). Іў Мантан іграў ролю Сезара з заўважным натхненнем, уклаўшы шмат пяшчоты ў гэты вобраз. Запамінаюцца ягоныя вочы, поўныя роспачы і моцнага болю, калі ягонага героя кінула каханая жанчына. Фільм "Сезар і Разалі" па праве можна назваць адной з самых прыгожых жамчужын у французскім кіно.

У 1975 годзе лёс звёў на здымачнай пляцоўцы Іва Мантана з яшчэ адной таленавітай актрысай — Катрын Дэнёў. Гэта быў фільм "Дзікун" (рэжысёр Ж.П.Рапэно). Роля Мантана ў гэтай стужцы не вельмі ўдалая, ён часам нібыта адыходзіў на другі план, але гэта залежыць ужо не толькі ад акцёрскай ігры, але і ад сцэнарыя, дзе асноўнае дзеянне засяроджвалася на галоўнай гераіні.

Толькі ў адным толькі Парыжы "Дзікун" сабраў больш за мільён гледачоў. Водгукі французскага друку былі ў асноўным добразычлівымі. Сама К.Дэнёў назвала "Дзікуна" сярод чатырох самых важных сваіх карцін — "Шэрбурскія парасоны", "Трыстан", "Апошняе метро". Праз шэсць гадоў актрыса зноў сустрэлася на здымачнай пляцоўцы з Івам Мантанам у фільме "Выбар зброі" (рэжысёр А.Карно, 1981 г.).

Як артыст ставіўся да славы? У сваёй кнізе "Сонцам поўніцца галава" ён пісаў: "Я не быў прыручаны ў дзяцінстве падводзіць шчаслівыя вынікі, і ў мяне ніколі ў жыцці не было вялікіх грошай. Дагэтуль не перастаю здзіўляцца поспеху. Я мяркую, што ніводны артыст не застаецца абыякавым да ўражання, якое ён робіць на тысячы незнаёмых гледачоў. Гэта адбываецца не столькі ад ганору, колькі ад задавальнення, што твая праца ацэнена па вартасці. Да таго ж гэтая гранічная чуласць да рэакцыі публікі прымушае мяне рабіць сваю справу з максімальнай добрасумленнасцю. Цяжка быць цалкам задаволеным сабою. Не менш цяжка задаволіць гледачоў".

**Святлана ШЧЭПАЎСКІХ**




# СУПЕР-ШОУ ДЗЕЛЯ... ШОУ

Пад "Стары" Новы год, 13-га студзеня, Саша Варламаў праводзіў завяршальнае шоу свайго фэсту моды "Супермадэль'98". Дарэчы, што тычыцца тэрмінаў правядзення, "наша" шоу супадала з расійскім. А вось па маштабах — ніякага параўнання. Расіяне выбіралі сваю лепшую прыгажуню сціпла, у Самары. Наша шоу прайшло ў самай прэстыжнай зале, у будынку на вяршыні гары Траецкай у цэнтры сталіцы — у Вялікім тэатры Беларусі. Прастора сцэны была таксама пабольшана ўдвая — за кошт так званай "фуры", "другой" дапаможнай сцэны, што зазвычай хаваецца за "заднікам". Усе вольныя сцены фае пакрывала безліч фотаздымкаў прыгажунь і прыгажуноў. Былі выдатныя дэкарацыі, бліскучыя гарнітуры, аглушальная фанаграма — адным словам, гэта быў "супер-размах". Таленавітасць Сашы Варламава знайшла, нарэшце, адпаведнае ўвасабленне. Ён выступаў не толькі як арганізатар, аўтар праекта, кіраўнік мадэльнага агенцтва, але і як аўтар сцэнарыя (галоўнай часткай якога была "Навагодняя Казка для дарослых" пра зорку з імем "Супермадэль"), рэжысёр-пастаноўшчык і нават аўтар тэкстаў песень. Ён сапраўды правёў "супер-працу", зрабіўшы спробу ператварыць нікому ўжо не цікавы конкурс прыгажосці ў музычна-харэаграфічнае шоу з паказам модных мадэляў. І яму гэта амаль удалося — з дапамогай сяброў-прафесіяналаў, сярод якіх, напрыклад, мастак Іван Міско, аўтар ідэі галоўнага прыза — стылізаванага блiскучага баліда з тварам жанчыны. Ці танцоўшчык Нацыянальнага тэатра балета Аляксандр Фурман — харэограф-пастаноўшчык і адзін з выканаўцаў харэаграфічнай часткі праграмы. І, вядома ж, не абышлося без спонсараў — каля 20 фірмаў.

Шоу ўяўляла сабой паказ мадэляў з вызначэннем прыгажэйшых манекеншчыкаў — дзяўчат (намінацыі "Подыумная мадэль" і "Маленькая мадэль") і хлопцаў (намінацыя "Подыумная мадэль"). Адначасова вызначаліся супер-стыліст, супер-цырульнік, аўтар "супер-макіяжу", супер-дызайнер, супер-канструктар адзення, аўтар "супер-ідэі", супер-фотамастак... Так што слова "супер", што ў перакладзе з ангельскай значыць "звыш", "тое, што над асноўным", у гэты вечар ужывалася амаль так жа часта, як і ўсе астатнія словы разам. А "супер-спонсарам" была вінаразлівачная фірма BST. Плакаты, развешаныя па фае, светлавое пано, канструкцыя з блiскучай пірамідай, якая круцілася на сцэне... (Пасля гэтага асабіста я ніколі не стану ўжываць прадукцыю фірмы BST — жыццёвы вопыт падказвае, што настолькі агрэсіўная рэклама хутчэй за ўсё хавае пад сабой не надта высокую якасць.)





У рэшце рэшт, "Супермадэлямі-98", былі вызначаны:

— Юлія Сянкевіч з Мінска — "Подыумная мадэль";

— Святлана Губарэвіч, Мінск — "Маленькая мадэль" (рост да 174 см);

— Андрэй Новік з Брэста — "Мужчынская мадэль" (гэты дваццацігадовы юнак быў на галаву вышэйшы за іншых кандыдатаў — нават у прамым сэнсе, бо мае рост 203 см!);

— Наталля Кашкан (Мінск) і Сяргей Пракапчук (Каменюкі) —"Фотасупермадэль".

Яшчэ пяць дадатковых "супер-мадэляў" вызначылі асобныя фірмы-спонсары: "Андарак", "Мілавіца", "Футра", "Сан-Рима", "Моготекс".

Усё гэта добра, але, назіраючы апісанае дзейства, я ніяк не мог адсланіцца ад думкі, што з'яўляюся сведкам святатацтва. Сёння за грошы можна купіць усё, вядома ж. Можна і "храм мастацтваў" на вечар ператварыць у модны салон з рэстаранай залай. Але ў такім выпадку трэба і абмяжоўваць аўдыторыю членамі "карпаратыўнай каманды". (Ім, напэўна, цікава было бачыць на сцэне сваіх калег, нават у даволі нязграбным выглядзе, напрыклад, у вячэрняй сукенцы — і ў ботах.) Але чаму гэтую, даволі лакальную тусоўку, няхай і зробленую з велізэзным размахам, павінны назіраць "звычайныя" гледачы ці мільёны тэлегледачоў? Чаму мы вымушаны слухаць нудоцце зацягнутай "казкі для дарослых", якую нават і Алене Спірыдовіч не ўдалося распавесці з захапленнем? Чаму мы павінны назіраць, як на працягу больш за паўгадзіны адзін з кіраўнікоў фірмы BST раздае налева і направа радыёапаратуру ці талоны ў "Ланком", ці пуцёўкі на Канары ды ў Анталью? Чаму мусім выслухоўваць непісьменныя прамовы, дзе нават Чэхаў мянуецца "Антонам Іванавічам", а аднаго з пастаноўшчыкаў называюць "балетам фурманам"? Не тут гэтаму месца, думалася мне. Бо тут нават сцэны, хай і ўпрыгожаныя сімваламі мінулай эпохі, гэтаму супраціўляюцца. Так падалося мне.

**Ігар КЛОКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**





КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4202.

Падпісана ў свет 15.01.97. у 16.00.

Замова 227.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**